**А. В. Вольскі, І. А. Гімпель**

# Літаратурнае чытанне

Падручнік для **4** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае




МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2013

УДК 821.161.3.09(075.2=161.3)
ББК 83.3(4Беи)я71
В71

Рэцэнзент

метадычнае аб’яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Міханавіцкая сярэдняя школа» (настаўнік пачатковых класаў вышэйшай катэгорыі *М. І. Пятровіч*)

## Умоўныя абазначэнні:

 — пытанні і заданні да тэкстаў;

 — заданні павышанай цяжкасці;

 — слоўнік

**ISBN 978-985-559-219-9 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-559-217-5**

# МЯККІ СНЕГ ЛЯТАЕ ПУХАМ, І КАНЦА ЯМУ НЯМА...



## Першы снег

*Якуб Колас*

Моцна скаваў мароз голую зямлю, зрабіў яе цвёрдай, як камень. Вымерзлі лужыны, высахла гразь. Халодная ледзяная кара пакрыла рэкі і азёры. Цвёрдую пасцель падрыхтаваў мароз для мяккага белага снегу.

Вось падзьмуў сівер. І папаўзлі па небе снегавыя хмары, сівыя, лёгкія, як дым. Яны завалаклі ўсё неба.

Вось ціха закружыўся ў паветры белы лёгкі пушок і нячутна лёг на зямлю. За ім паказаўся другі, трэці. Усё часцей і гусцей залёталі гэтыя белыя халодныя матылькі і пасыпаліся на зямлю. Як жа многа іх! Аж паветра пабялела.

Валяць і валяць сняжынкі. Хутка бялее зямля.

Назаўтра выходзіш на двор. І не пазнаць нічога! Куды ні кінь вокам — усюды бела, аж вочы адбірае. На стрэхах ляжыць цэлы пласт снегу.

Прыціхла рэчка, і снег закрыў яе так, што і берагоў не відаць.

?

1. З якім пачуццём піша пісьменнік пра першы снег?
2. Знайдзіце і прачытайце радкі, якія ствараюць малюнак надыходу зімы.
3. Як вы разумееце выразы *«папаўзлі па небе снегавыя хмары», «яны завалаклі ўсё неба», «**залёталі** гэтыя белыя халодныя матылькі», «**валяць і валяць** сняжынкі», «усюды бела, **аж вочы адбірае**»*? Да выдзеленых слоў падбярыце сінонімы (словы з блізкім значэннем).
4. Якія малюнкі можна стварыць да тэксту?
5. Успомніце і раскажыце аб сваіх уражаннях ад першага снегу.



## Зазімак

*Станіслаў Шушкевіч*

Ізноў зазімак на двары,
Лядком пакрыта лужына.
Б'е дзяцел дзюбай па кары
І паглядае спуджана.

Ён рад, што дождж не лье цяпер,
Што белая ваколіца,
Наставіў чубік, як каўнер,
Працуе і не томіцца.

Дзятве не ўседзець у двары,
Бо вабіць сцежка слізкая,

І гоняць саначкі з гары,
Аж іскры з грудаў бліскаюць.

Прыйшоў зазімак. Ціха лёг,
Нязваны і няпрошаны.
Над ярам хіліцца быльнёг,
Як пухам запарошаны.



***Быльнёг*** — адзін з відаў палыну.
***Зазі́мак*** — першы снег з марозам, пачатак зімы.



1. Якія карціны вы ўявілі, чытаючы гэты твор? Якія фарбы вы б выкарысталі, каб праілюстраваць верш?
2. Прачытайце, як апісваецца пачатак зімы.
3. Чаму аўтар напісаў, што дзяцел *«паглядае спуджана»*?
4. Чаму не можа *«ўседзець у двары дзятва»*?

## Загадка

З неба ўпаў, усю зямлю,
Як абрусам, заслаў.

Ён ніколі рук не меў —
Маляваць жа век умеў.

## Скорагаворка

Скрып, скрып, скрып, скрып.
Снег ад холаду ахрып.
У яго, напэўна, грып.

# Маладая зіма

*Рыгор Ігнаценка*

Яшчэ ўчора лес быў чорны, непрывабны. А вось выпаў ноччу мяккі сняжок, і ўсё ў ім змянілася да



непазнавальнасці. Стаіць ён цяпер у сваім дарагім кафтане ды хітра ў кашлатую бараду ўсміхаецца.

Першая зімовая раніца.

Месцамі паміж дрэвамі яшчэ начныя прыцемкі трымаюцца, а чырвонагаловы дзяцел — лясны доктар — ужо за працай. Сядзіць птах, упёршыся хвастом у шурпаты ствол адзінокай асінкі, ды дзелавіта сухую верхавіну дзяўбе.

— Тук-тук-тук, — чуецца яго мерны стук у прыціхлым лесе.

Нізка над дрэвамі імкліва праляцела чародка стракатых амялушак. Паселі на запалены чырвонымі гронкамі ягад куст каліны і таропка сталі падмарожанымі ягадамі ласавацца, ціха перасвістваючыся паміж сабою.

А гэта што за калабок па мяккай сцежцы коціцца?

Эге, ды гэта ж малады заяц-белячок! Ён упершыню сёння белы снег убачыў. Убачыў — і спалохаўся. Вось касавокі і ўцякае. Мітусіцца, выбіўшыся з сіл, па белым лесе, і ўцячы ад снегу ніяк яму не ўдаецца.

Яшчэ сюрпрыз. Пад дрэвамі — сляды невядомага і нейкія рызманы яго.

Вось яно што! Ды гэта ж ласіны рог! Цяжкі такі, галінасты.

Пакарыла маладая зіма ляснога волата. Паслухмяна зняў ён перад беласнежнай прыгажуняй сваю дарагую карону.



***Рызманы́*** — падранае, зношанае адзенне; лахманы.



1. Пра які сюрпрыз гаворыцца ў творы?
2. Знайдзіце і прачытайце ў тэксце словы, з дапамогай якіх аўтар надзяляе зіму чалавечымі рысамі.
3. Як паводзілі сябе першай зімовай раніцай звяры і птушкі? Чым яны займаліся? Прачытайце.
4. Якімі словамі з тэксту можна падпісаць малюнак?
5. Прачытайце тэкст самастойна, падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу па плане:
   - Выпаў сняжок.
   - Лясны доктар.
   - Чародка амялушак.
   - Заяц-белячок спалохаўся.
   - Лясны волат.

## Зіма

*Алесь Ставер*

Сыплецца мяккі,
пушысты сняжок.
Белаю коўдрай накрыўся
лужок.
Лес нерухома стаіць за сялом.
Рэчка замоўкла
пад тоўстым ільдом.

Птушкам
знайсці зараз ежу цяжэй.
Дзеці!
Змайструем кармушкі хутчэй!
Зерне насыплем —
хай птушкі дзяўбуць.
Песню ўдзячную нам
прапяюць.

?

1. Які настрой узнікае пры чытанні верша?
2. Якія зімовыя прыкметы апісваюцца ў творы? Прачытайце.
3. Да чаго заклікае аўтар дзяцей? Чаму?
4*. Параўнайце гэты твор з вершам Станіслава Шушкевіча «Зазімак». У чым іх падабенства?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

### Прыказкі

- Зімой сонца свеціць, ды не грэе.
- Сонца на лета — зіма на мароз.

# Сінічкі і вавёрачкі

*Васіль Гурскі*

1

Вечарам была адліга, ішоў дождж, а ноччу раптоўна змяніўся вецер, пахаладала. Мароз мацнеў з кожнай гадзінай. І мокры снег зверху зацвярдзеў. Дрэвы абледзянелі, ствалы і галінкі заблішчалі, як шкло.

Раніцай прачнулася сямейка сінічак. Дачакаліся сонца і паляцелі шукаць ежу. Але ні кузуркі пад карой, ні дробнага зярнятка пустазелля пад снегам не знайшлі. Хоць плач ад гора. Забедавалі сінічкі, сумныя, нізка апусцілі галоўкі.

— Ляціце да мяне, — паклікаў сінічак лось, які абрываў ігліцу з куста ядлоўцу.

— Снедайце са мной, — мэкнула казуля і сарвала з асіны тонкую галінку.

— Частуйцеся маім далікатэсам, — запрасіў дзік і вырыў лычом з-пад снегу некалькі мёрзлых бульбін.

Сінічкі толькі галоўкамі махалі — не наша, маўляў, гэта ежа. Не ведалі гаротныя птушкі, як і дзе знайсці што-небудзь на сняданак. І зноў адправіліся на пошукі. Агледзелі на паляне бур’ян, абшнарылі стары пень — пуста. Стаміліся і селі пад елкай адпачыць.

2

І тут на іх пасыпаліся карычневыя лускавінкі. Зірнулі сінічкі ўгору і ўбачылі вавёрачку, якая трымала ў лапках яловую шышку.

Адна сінічка заціі́нькала:

— Шаноўная вавёрачка! Можа, ты падзелішся з намі сваім сняданкам?

— Падзялюся, — цокнула вавёрачка і выпусціла шышку з лапак.

— Бярыце, ешце на здароўе!

Сінічкі схапілі шышку, дзяўблі яе, качалі па снезе, але дастаць зярняткі з-пад лускавінак не змаглі. І зацінькалі жаласліва:

— Нічога ў нас не атрымліваецца, вавёрачка. Раскажы, як ты дастаеш зярняткі.

— Зубкамі адгрызаю лускавінкі, выцягваю зярняткі.

— Зубкамі? — здзівіліся сінічкі. — У нас жа зубак няма.

— Бедныя сінічкі, — паспачувала вавёрачка. — Цяжка жыць без зубак. Ды не бядуйце. Я вам дапамагу: сама буду даставаць зярняткі, а вы толькі збірайце іх.

3

Вавёрачка ўзяла шышку, і тая, як круцёлка, замільгала ў яе лапках. Ва ўсе бакі веерам разляталіся лускавінкі, кружыліся ў паветры, а зярняткі адно за адным падалі на цвёрдую скарынку снегу. Сінічкі скакалі вакол елкі, збіралі зярняткі і глыталі іх. Не агледзеліся, як наеліся ўволю.

— Хопіць, вавёрачка, хопіць, — зацінькалі яны весела. — Дзякуй табе за шчодрае частаванне!

І хорам заспявалі песеньку, у якой хвалілі добрую вавёрачку.



***Абшна́рыць*** — пільна, уважліва абшукаць.
***Гаро́тны*** — поўны гора, нястач, бедны.
***Лускаві́нкі*** — слаістае покрыва шышак.

?

1. Які гэта тэкст — апавяданне, казка, байка?
2. Чаму забедавалі сінічкі? Куды яны адправіліся на пошукі корму? Хто з лясных жыхароў гатоў быў прыйсці на дапамогу сінічкам?
3. Да каго звярнуліся сінічкі з просьбай падзяліцца сняданкам?
4. Як вавёрачка дапамагла птушкам?
5. Як сінічкі аддзячылі вавёрачцы за частаванне?
6. Якая галоўная думка твора?
7. Складзіце план тэксту і падрыхтуйце падрабязны пераказ па плане.

## Зіма

*Якуб Колас*

Надышлі маразы,
Рэчкі закавалі,
Белыя бярозы
Шэранем убралі.

Замялі дарогі
Ветрыкі снягамі.
Лес, як дзед убогі
З доўгімі вусамі,

Апусціў галіны
І стаіць журботна.
Зрэдку верхавіны
Зашумяць маркотна.



Мяккая пярына
Вочы адбірае.
Белая раўніна —
Ні канца ні краю.

Пад пялёнкай белай
Травы і лісточкі.
Рэчка анямела,
Змоўклі ручаёчкі.

Амярцвелі лозы,
Чуць галлём хістаюць,
А ў палях марозы
Ды вятры гуляюць.

?

1. Якія карціны зімы вы ўявілі пры чытанні верша? Падмацуйце свае выказванні словамі з тэксту.
2. Што аўтар гаворыць пра рэчку, бярозы, дарогі, лес?
3. Як вы разумееце выразы *«мяккая пярына вочы адбірае», «рэчка анямела», «амярцвелі лозы»*?
4*. Параўнайце карціны, намаляваныя Якубам Коласам у творах «Першы снег» і «Зіма». У чым іх падабенства і адрозненне?
5. Вывучыце верш на памяць.

### Загадка

Хто гэта ў бярвенні
Зімою страляе?
Каго ніхто ў хату
К сабе не пускае?

# Лясная сталоўка

*Васіль Гурскі*

Нізкае сонца схавалася за хмару і перастала грэць спіну Дзеду Марозу, які драмаў пад цёплымі прамянямі. Прачнуўся ён, заварушыўся, закрактаў, затрос ад злосці барадой і раскатурхаў Мяцеліцу — халодны вецер і снег разгуляліся па абшарах. К ночы яны ўгаманіліся — перадыхнуць захацелі.

Доўга ляжаў зайчык-шарак пад елачкай, не хацеў уставаць. Але дапёк-такі мароз! Ужо і пушыстае футра не памагае — трэба грэцца. Усхапіўся ён і паскакаў між кустоў. Па дарозе сустрэў зайца-беляка. Пабегалі яны навыперадкі і захацелі есці. Вярнуліся назад у кусты, пачалі грызці тонкія галінкі лазы, бярозы, кару асіны. Хоць і горкая кара, але для іх вельмі смачная.

Тым часам на бераг рэчкі вылез з нары стары бабёр. Паслухаў — ціха. Сеў на хвост і заднія лапы і грызе лазовыя парасткі. А вось тоўстая лазіна — аб яе добра зубы патачыць. Абхапіў камель пярэднімі лапамі, абгрыз знізу кару і ўзяўся падгрызаць укругавую. Дрэўца ўпала. Распілаваў яго бабёр на кавалкі, каб да хаткі перацягнуць: восеньскі запас кары канчаецца, а добры гаспадар без запасу жыць не можа.

Раптам пачуўся лёгкі шоргат. Гэта казуля прыбегла ў сталоўку. Бабёр нырнуў у ваду і палез у сваю хатку. Але і казуля доўга не затрымалася — спалохаў яе нейчы цяжкі тупат.



Прыйшлі ласі. І яны любяць лазовую кару. Падгрызе яе лось ля камля і цягне, пакуль не адарвецца лазовы па́сак. Тады зноў зубы ў ход пускае. На марозе кавалкі аддзіраюцца кароткія, затое, як пацяплее, цягнуцца доўгія.

З'елі ласі «першае» і пайшлі ў хвойнік па «другое». Там спрытна габлявалі зубамі дрэвы, каб садраць стужку маладой сасновай кары. На «трэцяе» — зялёная ігліца, маладыя галінкі. Пасля абеду палеглі ў глыбокім снезе — толькі спіны відаць.

Раніцай іх пабудзіў дзяцел. Ён прыляцеў з цёплага дупла і снедае на «другім паверсе»: дзяўбе моцнай дзюбай дрэва, — толькі трэскі ляцяць! — а доўгім тонкім языком дастае мёрзлых мошак з-пад кары, з дзірачак у ствалах.

Прылятаюць у сталоўку са сваіх снежных нор цецерукі, рабчыкі. Яны дзяўбуць пупышкі бяроз, асін, алешын.

Да хваёвых дрэў спяшаюцца сініцы, снегіры, крыжадзюбы, весялухі ваверкі. Луза́юць шышкі, ядуць

насенне. Ва ўсіх адзін клопат: хутчэй наесціся, каб сагрэцца і набрацца сілы.

Лясная сталоўка не зачыняецца круглыя суткі, працуе без перапынку.

Не, не загінуць зімой жывёлы і птушкі ад голаду і холаду, як ні стараецца Дзед Мароз, як ні трасе калючай ледзяной барадой, — лясная сталоўка выратуе!

***Па́сак*** — вузкі доўгі кавалак чаго-небудзь (скуры, тканіны); рэ́мень, шнурок.

***Раскату́рхаць*** — нямоцна штурхаючы, трасучы абудзіць ад сну, прымусіць прачнуцца; *перан.:* разварушыць.

?

1. Пра што гаворыцца ў гэтым творы? Што гэта — казка ці апавяданне?
2. Як паводзілі сябе лясныя звяры? Хто пабудзіў іх раніцай?
3. Якія птушкі прыляцелі ў лясную сталоўку? Чым яны ласаваліся? Прачытайце.
4*. Падзяліце тэкст на часткі, выдзяляючы ў ім асноўны змест, галоўнае. Складзіце план і сцісла перакажыце твор.

## Зімой у лесе

*Янка Купала*

І лягла ж цішыня
У бары за гарой, —
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.

...Сокат птушак замёр,
Як бы поўнач была,
Адно свісне тапор
Ды зазвоніць піла.

...Далей — глуш, цішыня
У бары за гарой, —
Каб дравінка адна
Хоць кіўнула сабой.



***Драві́нка*** — дрэва.
***Со́кат*** — шчабятанне, галасы птушак.

1. Якія пачуцці выклікаў у аўтара надыход зімы?
2. Якія словы і выразы дапамагаюць уявіць цішыню зімовага лесу?
3. Якімі словамі можна падпісаць малюнак?
4. Ці былі вы ў зімовым лесе? Раскажыце, як ён выглядаў.
5. Вывучыце верш на памяць.

# У зімовым лесе

*Барыс Сачанка*

1

Нечакана напа́даў, лёг снег. І тата з мамаю, спахапіўшыся, што дроў на зіму нарыхтавалі малавата, пачалі збірацца ў лес.

— І мяне з сабой вазьміце, — папрасіўся ў іх сынок Петрык.

— А не змерзнеш? — спытаў у Петрыка тата.

— Не-а!

Апранулі Петрыка цяплей і ўзялі з сабою.

Выехалі з вёскі. Петрык ад здзіўлення аж рот разявіў. Вачам сваім не паверыў: такая прыгажосць! Быццам чысценькаю белаю ватаю ўсё навокал абкладзена — дарога, дрэвы, кусты. А ў лесе, у лесе што! Елачкі, сасонкі, здаецца, аж папрыгіналіся ад цяжару. Ды і дубы, клёны, ясені зусім інакш выглядаюць, чым улетку. Бароды сівога моху на камлях быццам яшчэ больш пасівелі, пагусцелі, а голле паўкрывала пухнатая шэрань. І далёка-далёка ўсё відаць, нават сляды звяроў.

2

Тата з мамай, узяўшы пілу і сякеру, ужо завіхаліся каля паваленай — ці не бурай? — стaрадрэвіны. А Петрык усё ніяк не мог адвесці вачэй, любаваўся і любаваўся зімовым лесам.

— Тук-тук-тук! — пачулася раптам аднекуль зверху.

І Петрык насцярожыўся, спытаў таямніча:

— Хто гэта там стукае?

— Дзяцел, — адказаў тата.

— Што ён робіць?

— А ты сходзі ды паглядзі!

Пайшоў Петрык пад тое дрэва, адкуль стук чуўся. І доўга глядзеў, хочучы здаўмецца, што робіць высока на дрэве чырвонагаловы прыгажун дзяцел. Аж пакуль холадна не стала, не змёрз. Толькі тады спахапіўся Петрык, да таты, мамы пабег.

— Мне холадна, — прызнаўся ён.

— Холадна? — не здзівіўся тата. — А ты пагрэйся.

— Як пагрэцца?

— А вось на́ табе ручку пілы ды дровы пілуй. А я тым часам сучча буду абсякаць. Глядзіш — сагрэешся, дый мы з маці хутчэй управімся, дадому паедзем.



## 3

Узяў Петрык ручку пілы, пачаў пілаваць разам з мамай дровы. Ён да сябе пілу цягне, а мама — да сябе. І не заўважыў, як сагрэўся. Нават рукавіцы з рук зняў, кажушок расшпіліў.

— Ну, сагрэўся? — спытаў у Петрыка тата.

— Сагрэўся, — весела адказаў Петрык і засмяяўся.

— Чаго гэта ты раптам? — паглядзела на Петрыка мама.

— Дзятла ўспомніў.

— Што, здагадаўся, чаму ён так упарта дзюбаю тукае? — падміргнуў тата.

— Ага. Таксама, мусіць, грэецца.

— Грэецца, а заадно і дрэва лечыць, — дадаў тата.



***Здаўме́цца*** — дадумацца да чаго-небудзь, здагадацца аб чым-небудзь.



1. Што прымусіла бацькоў збірацца ў лес?
2. Якія малюнкі зімовай прыроды зачаравалі Петрыка? Прачытайце.
3. Якія рысы характару Петрыка вам спадабаліся?
4. Прапануйце свой малюнак да кожнай часткі.
5. Перакажыце блізка да тэксту тую частку, якая вам найбольш спадабалася.

## Загадка

Кусаецца, а не воўк,
Малюе, а не мастак,
Пячэ, а не агонь.

## Зімовы лес

*Віктар Гардзей*

Зімовы лес дзівосны —
Не лес, а проста казка!
Заснежаныя сосны
Стаяць у белых масках.

Сумёты пры ялінах
Стаяць, нібы палаткі.
Там спяць, як у пярынах,
Глушцы і курапаткі.

?
1. Як змяніўся лес зімой?
2. Чаму аўтар параўноўвае зімовы лес з казкай?
3. На што зімой падобныя сосны, сумёты? Прачытайце.
4. Якія фарбы можна выкарыстаць, каб намаляваць казачны зімовы лес?
5. Прачытайце верш выразна.

## Цецярук і лісіца

*(Казка)*

*Леў Талстой*

Цецярук сядзеў на заснежаным дрэве. Лісіца падышла да яго ды кажа:

— Здароў, цецеручок, мой браток, як пачула твой галасок, дык і прыйшла цябе праведаць.

— Дзякуй за добрае слова, — адказаў цецярук.

Лісіца прыкінулася, што не чуе, і сказала:

— Што кажаш? Не чую. Ты б, цецеручок, мой браток, зляцеў на сняжок пагуляць, са мной паразмаўляць, а то я з дрэва не чую.

Цецярук сказаў:

— Баюся я злятаць на снег. Нам, птушкам, небяспечна хадзіць па зямлі.

— Ці ты мяне баішся? — спытала лісіца.

— Не цябе, дык іншых звяроў баюся, — кажа цецярук, — усякія звяры бываюць.

— Не, цецеручок, мой галубок, цяпер загад аб'яўлены, каб па ўсёй зямлі мір быў. Цяпер ужо звяры адзін другога не чапаюць.

— Гэта добра, — сказаў цецярук, — а то вось сабакі бягуць: каб па-старому, табе б уцякаць трэба, а цяпер баяцца няма чаго.

Лісіца пачула сабак, навастрыла вушы і хацела бегчы.

— Куды ж ты? — сказаў цецярук. — Цяпер жа загад, сабакі не будуць чапаць!



— А хто іх ведае, — адказала лісіца, — можа, яны загаду не чулі.

І ўцякла.

?

1. Якой падалася вам лісіца? У чым праявілася яе хітрасць? Прачытайце.
2. Што сказаў цецярук лісе, каб пазбавіцца ад яе?
3. Якім вы ўяўляеце цецерука? Ахарактарызуйце яго.
4. Што хацеў сказаць аўтар у казцы?
5. Размяркуйце казку па ролях і прачытайце яе.

## У школу

*Янка Журба*



Сонейка зірнула
Ў мёрзлае акно,
Іскрамі заззяла
Дзіўна так яно.

Сёння дзень вясёлы
Зззяе яснатой:
Добра бегчы ў школу
Дзеткам грамадой.

За акном, як срэбра,
Скрозь бялее снег.
Хлопчык хутка ў школу
З сябрамі пабег.

?

1. Якім настроем прасякнуты верш?
2. Якім паказвае паэт сонейка? Якія словы дапамагаюць ажывіць сонейка?

3. З чым параўноўваецца снег? Як пра гэта сказана ў вершы?
4. Разгледзьце ілюстрацыю да верша. Якія словы з тэксту падыходзіць да яе апісання?

## Знаходка

*Мікола Корзун*

### 1

Стаяў прыгожы зімовы дзень. Ярка свяціла сонца. Поле ад сяла і да самага лесу здавалася вялізнай іскрыстай прасцінай.

Я і Лёня не ведалі, як лепш правесці выхадны дзень. Прыдумалі розныя гульні, але яны ні яму, ні мне не падабаліся.

Нарэшце я прапанаваў:

— Давай паедзем на лыжах у лес.

Лёня зірнуў на мяне і абыякава адказаў:

— Надакучыла. Усё на лыжах і на лыжах. Мы ж і ўчора ездзілі...

— Дык гэта ж у лес. Там мы ні разу не былі гэтай зімой.

— Ну добра, угаварыў, — згадзіўся Лёня.

Мы апрануліся ў спартыўныя касцюмы, сталі на лыжы і паехалі.

Як толькі выехалі за сяло, у твар падзьмуў калючы вецер. Лёня моршчыўся, плюшчыў вочы. Ён адставаў і злаваўся. Мне прыходзілася раз-пораз спыняцца і чакаць яго.

Нарэшце ўехалі ў лес. Тут адразу стала зацішней, затое ехаць пацяжэла. Лыжы глыбока правальваліся ў мяккім, як вата, снезе. Маладзенькія елачкі між старых дрэў нагадвалі белыя стажкі, над якімі тырчаць зялёныя пруцікі.

Часам хто-небудзь з нас закранаў навіслыя над ляснох сцяжынкай галіны. Яны ўздрыгвалі, скідалі долу белыя падушкі, церусілі серабрысты пыл.

2

Лёня звярнуў убок, спыніўся і паклікаў мяне. На круглай паляне стаяла невялікае каржакаватае дрэва. Ствол яго ўверсе раздвойваўся, як рагатка. Крона круглая, шырокая, але рэдкая. На тоненькіх, быццам драцяных, галінках тырчалі вострыя іголкі.

— Першы раз бачу ў лесе яблыню, — сказаў Лёня.

— А што дзіўнага? Гэта ж дзічка, — адказаў я. І тут у мяне мільганула думка: «На ёй, напэўна, былі яблыкі. А калі так, то цяпер яны на зямлі, пад снегам».

Я зняў лыжы і пачаў разграбаць снег. Ён быў мяккі і сыпучы, як мука.

— Што ты робіш? — здзівіўся Лёня.

— Яблыкі шукаю.

— Што?! Ха-ха-ха!.. Якія цяпер яблыкі? Ты з глузду з’ехаў? Ды кінь ты, не смяшы мяне.

— Смейся, калі маеш ахвоту.

— На ёй і не магло быць яблыкаў, бо яна лясная і ніхто яе не даглядаў. А калі і вырасла колькі, дык увосень апалі і іх птушкі здзяўблі. І наогул, ты, мабыць, ніколі не каштаваў дзікіх яблыкаў, бо не гроб бы снег, як барсук. Яны ж кіслейшыя за воцат…

## 3

Я не зважаў на насмешкі сябра. І вось на дне ямы паказалася леташняя трава, зашамацела сухое лісце. Я прыгаршчамі выкідваў усё на снег. Раптам у руку мне трапіў невялікі цвёрды шарык. Яблык!.. Адзін бок яго быў бледна-жоўты, нібы залаты, другі — чырвоны.

Я трымаў яблык за тоненькі хвосцік, пакручваў то жоўтым, то чырвоным бокам і не мог нацешыцца. Потым паднёс да рота і адкусіў. Яблык быў халодны, салодкі і духмяны.



Лёня глядзеў на мяне, нібы не верачы сваім вачам.

— На, пакаштуй, — сказаў я.

Ён недаверліва ўзяў яблык, адкусіў, пажаваў, схіліўшы галаву, быццам прыслухоўваючыся...

— Ну, як на смак? — спытаў я.

— Як мёд! Сам у роце растае, — засвяціўся ўсмешкай Лёня. — Ніколі не думаў, што лясныя яблыкі могуць быць такія смачныя!

— Нічога дзіўнага. Яны паспелі і доўга ляжалі. Бач, як яблыня ўкрыла іх сваім лісцем.

Лёня скінуў лыжы і разам са мной узяўся разграбаць снег вакол яблыні. Потым мы паставілі адну лыжу бокам, узяліся за канцы і пачалі ссоўваць снег і лісце ў кучу.

— У-і-і!.. А колькі іх! — усклікнуў Лёня, убачыўшы на траве яблыкі.

Яблыкаў было столькі, што мы набралі поўныя кішэні. Дадому мы прыехалі пад самы вечар, задаволеныя і прагулкай на лыжах, і нечаканай знаходкай.

?

1. Пра якую знаходку гаворыцца ў апавяданні?
2. Якімі былі лясныя яблыкі? Прачытайце.
3. Знайдзіце ў тэксце апісанне зімовага лесу. Якія сказы найбольш ярка перадаюць гэту карціну? Прачытайце.
4. Дайце кожнай частцы апавядання загаловак.
5. Перакажыце апавяданне сцісла па самастойна складзеным плане.

## Мяцеліца

*Якуб Колас*



Нізка звіслі над зямлёю
Хмары снегавыя,
Свішча вецер за сцяною,
У коміне вые.

Лес гудзе, дрыжаць галіны,
Стогне бор хваёвы.
Злосна выюць верхавіны,
Гнуцца іх галовы.

Белым пылам даль закрыта,
Ходзяць віхры вірам,
Прасяваюць снег на сіта
У бясконцай шыры.



1. Які настрой стварае верш?
2. Якія словы і выразы дапамагаюць уявіць мяцеліцу? Прачытайце.
3. Разгледзьце малюнак. Якімі словамі з тэксту вы падпісалі б яго?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

## Скорагаворка

*Мікола Чарняўскі*

Воўча выў,
Глухі на вуха.
Падвывала завіруха.

Завіруха падвывала:
«Воўча,
Ты мой падвывала».

## Люты

*Клаўдзія Каліна*

Ідзе па зямлі Люты і пытае ў кожнага, ці адзеты, ці абуты. Зайшоў у сяло, пастукаўся да дзеда з бабай:

— Іду лютаваць! Сумёты намятаць! Дарогі засыпаць, усіх у хату заганяць. Люты я! Пытаю, ці ўсе адзеты, ці ўсе абуты.

— Усе, усе! — адказвае дзед. — У мяне кажух ёсць і валёнкі. У маёй бабы таксама кажух, і валёнкі, і цёплая хустка. І авечкі, і каровы ў цёплых хлявах. Хата прызбаю абнесена, дроў назапашана... Ідзі лютуй!

Супакоіўся Люты і пайшоў у лес да лясных птушак ды звяроў.

— О-го-го-го! — крычыць на ўвесь лес, аж рэха стогне. — Я Лю-у-у-уты! Іду лютаваць! Сумёты намятаць! Дарогі засыпаць!

— А ў мяне цёплае дупло! Я накрыюся хвастом і буду спаць! Лютуй! — адказала вавёрачка.

— А я ў берлагу́ лапу смакчу... — сапе скрозь сон мядзведзь. — Лютуй сабе!

— А я ў нару схаваюся! — матнуў рудым хвастом ліс.

— Я ямачку ў снезе зраблю! — сказаў заяц. — Я цяпер беленькі, і ніхто мяне не прыкмеціць.

— А мне не страшны ні мароз, ні завея, я ў цёплай камізэльцы! — ціўкнуў снягір.

— Я падамся да ч-ч-чалавечага прытулку-у! — застракатала сарока.

І ўсе звяры і птушкі пахаваліся. Хто ў нару, хто ў дупло, хто пад снег.

І што тут пачалося! Люты як дзьмухне — сумёты, як горы, выраслі. У маленькіх ялінак і сасонак толькі чубы з-пад снегу тырчаць.

На рэчцы страляе лёд. А Люты лютуе. То марозам сцісне, то завеяй у вочы сыпне. Доўга лютаваў. Нарэшце стаміўся, лёг пад сасною адпачываць і заснуў. Спіць сабе Люты і не чуе бяды.

А сонейка выглянула з-за хмары, нагрэла на сасне снег... І пачало з ледзяшоў капаць: кап! кап!

Выглянула з дупла вавёрка і зацокала на ўвесь лес:

— Спіць Люты! Спіць, не чуе,
Што Вясна яму рыхтуе!

Вылецеў з дупла дзяцел і як застукае дзюбай, тэлеграму адбівае:

— Спіць Люты! Спіць пад сасною,
А Са-ка-вік ужо за спіною!

А з ледзяшоў: кап! кап!

Раптам — кап! — проста Лютаму на нос.

Падхапіўся Люты, дзьмухнуў раз, другі завеяй, але сілы ўжо няма.

Чуе, Сакавік ужо недалёка.



***Камізэ́лька*** — кароткая адзежа без рукавоў і каўняра.

***Пры́зба*** — невысокі земляны насып уздоўж знадворных сцен хаты.

1. Чаму трэці месяц зімы мае такую назву?
2. Хто парушыў сон Лютага? Прачытайце, як гэта адбылося.
3. Якія словы, выразы ствараюць вобраз Лютага? Дайце яму характарыстыку.
4*. Прачытайце казку па ролях і падрыхтуйцеся праінсцэніраваць яе.

## Сняжынкі

*Змітрок Бядуля*



Сняжыначкі, пушыначкі,
Як матылькі, ляцелі,
Як красачкі-пралесачкі,
Над хаткамі блішчэлі.

Насіліся, кружыліся
Над ціхімі палямі.
Сняжыначкі даліначкі
Пакрылі дыванамі.

1. З якім пачуццём Змітрок Бядуля піша пра сняжынкі?
2. Якія словы-дзеянні дапамагаюць уявіць іх як жывых істот? Падмацуйце свае выказванні словамі з тэксту.
3. З чым параўноўвае аўтар палёт сняжынак?

## Прыказкі

- Снежань год канчае, зіму пачынае.
- Студзень пагодны — год будзе плодны.
- Люты снегу падкідае, а сакавік падбірае.

## Як Сцёпка ўцёк ад марозу

*Пятро Рунец*

Мама вярталася з магазіна дахаты. Узышла на двор — бачыць: імчыцца яе Сцёпка, аж снег з-пад ног куры́ць. Падышла яна бліжэй і пытае:

— Сцёпка, чаго ты так моцна бяжыш?

— Ад марозу ўцякаю.

— Ну і што, уцёк?

— Уцёк.

— Адкуль ты ведаеш?

— Раней было холадна, а цяпер аж горача стала, — адказаў Сцёпка.

?

1. Што ў творы вам здалося смешным? Чаму?
2. Ці ўцёк Сцёпка ад марозу? Чаму?
3. Як вы разумееце выраз «аж снег з-пад ног куры́ць»? Якімі словамі можна яго замяніць?
4. Прачытайце смяшынку па ролях.

## Хвалькі

*(Казка)*

*Яраслаў Пархута*

Аднойчы на пажоўклы кляновы лісток, што прыбіўся ветрам да плота, апусціліся тры сняжынкі — Зорачка, Выцінанка і Крупінка. Паляжалі хвіліну-другую, паўзіраліся, як іхнія сяброўкі кружацца ў паветры, ды пачалі выхваляцца адна перад адной.

Сняжынка Зорачка сказала:

— Я самая прыгожая! За гэта мяне і паважаюць. Нездарма партрэт мой па многіх краінах разышоўся.

Сняжынка Выцінанка абурылася:

— Кіназорка знайшлася! Самая прыгожая — гэта я. З мяне дзяўчаты некалі нават фасоны здымалі, калі папяровыя фіранкі рабілі.

Сняжынка Крупінка таксама не ўтрымалася:

— Я самая прыгожая! І кругленькая, і мякенькая, быццам клубочак, які кацяняты на падлозе качаць любяць.

Пачула тую пахвальбу Сонейка, выглянула з-за хмаркі і сказала:

— Як на мой розум, то ўсе вы прыгожыя. Кожная па-свойму. Так што супакойцеся, пакіньце сварыцца.

— Не! — запярэчылі ў адзін голас Зорачка, Выцінанка і Крупінка. — Ты зірні ўважліва! Тады ўбачыш, каторая з нас прыгажэйшая.

Сонейка кінула на кляновы лісток сноп прамянёў і не паспела прыгледзецца, як усе тры сняжынкі расталі. Ператварыліся ў аднолькавыя малюсенькія кропелькі. А пасля яны збегліся ў адно месца і сталі... Кропляй.

Кропля крутанулася, паглядзела туды, паглядзела сюды і сказала Сонейку:

— Самая прыгожая — гэта я, Кропля! Калі пажадаю, то магу і Сонцам зрабіцца. Яркім. Залацістым. Во якая я!..

Пачула Сонейка тую пахвальбу і схавалася за хмарку. Аднекуль прыляцеў вецер, шугануў уздоўж

плота. Кроплі не стала — расплылася на лістку мокрай плямай.

Кляновы лісток, які дагэтуль маўчаў, ажно зморшчыўся:

— Хвалькі!



***Выцінáнка*** — ажурны малюнак, узор, выразаны з паперы.

***Фасóн*** — форма, крой, па якіх што-небудзь пашыта.



1. Як выхваляліся сняжынкі? Прачытайце.
2. Да чаго заклікала сняжынак Сонейка? Што яно сказала?
3. Што Сонейка зрабіла са сняжынкамі?
4. Што здарылася з Кропляй? Чаму?
5. Якога чалавека называюць хвальком?
6. У чым павучальны сэнс казкі?
7. Размяркуйце ролі і выразна прачытайце тэкст па ролях.

## Чарадзейныя фарбы

*Яўген Пярмяк*

Адзін раз у сто год самы добры з самых добрых старых — Дзед Мароз — у пераднавагоднюю ноч прыносіць сем чарадзейных фарбаў.

Гэтымі фарбамі можна намаляваць усё, што захочаш, і намаляванае ажыве.

Хочаш — намалюй статак кароў і затым пасві іх. Хочаш — намалюй карабель і плыві на ім… Або зор-

калёт — і ляці да зор. А калі табе патрэбна намаляваць штосьці больш простае, напрыклад крэсла, — калі ласка... Намалюй і сядай на яго.

Чарадзейнымі фарбамі можна намаляваць што хочаш, нават мыла, і яно будзе мыліцца.

Таму Дзед Мароз прыносіць чарадзейныя фарбы самаму добраму з усіх самых добрых дзяцей.

І гэта зразумела... Калі такія фарбы трапяць у рукі зломy хлопчыку ці злой дзяўчынцы — яны могуць нарабіць шмат бяды. Варта, скажам, гэтымі фарбамі дамаляваць чалавеку другі нос, і ён будзе двухносы. Варта дамаляваць сабаку рогі, курыцы — вусы, а кошцы — горб, і будзе сабака — рагаты, курыца — вусатая, а кошка — гарбатая.

Вось чаму Дзед Мароз вельмі доўга правярае сэрцы дзяцей, а затым ужо выбірае, каму з іх падарыць чарадзейныя фарбы.

У апошні раз Дзед Мароз падарыў такія фарбы аднаму самаму добраму з самых добрых хлопчыкаў.

Хлопчык вельмі ўзрадаваўся фарбам і адразу пачаў маляваць. Маляваць для іншых. Таму што ён быў самы добры з самых добрых хлопчыкаў. Ён намаляваў бабулі цёплую хустку, маме — прыгожую сукенку, а тату — новую паляўнічую стрэльбу. Сляпому дзядулю хлопчык намаляваў вочы, а сваім таварышам — вельмі вялікую школу...

Ён маляваў не разгінаючыся цэлы дзень і ўвесь вечар... Ён маляваў і на другі, і на трэці, і на чацвёрты дзень... Ён маляваў, жадаючы людзям дабра. Маляваў да таго часу, пакуль не скончыліся фарбы. Але...

Але ніхто не мог скарыстаць намаляванае. Хустка, намаляваная бабулі, была падобная да анучыны для мыцця падлогі, а сукенка, намаляваная маці, была крывабокая, стракатая і цесная. Маці не стала нават прымерваць яе. Паляўнічая стрэльба нічым не адрознівалася ад дубіны. Вочы для сляпога нагадвалі дзве блакітныя кляксы, і ён не мог імі бачыць. А школа, якую вельмі старанна маляваў хлопчык, атрымалася такая страшная, што блізка да яе баяліся падыходзіць. Хісткія сцены. Дах скрыўлены. Крывыя вокны. Касыя дзверы... Страшыдла, а не дом. Нязграбны будынак не захацелі ўзяць нават для склада.

Так на вуліцы з'явіліся дрэвы, падобныя да старых мяцёлак. З'явіліся коні з драцянымі нагамі, аўтамабілі з нейкімі дзіўнымі круглякамі замест колаў, самалёты з вельмі цяжкімі крыламі, электрычныя правады таўшчынёю з бервяно, шубы і паліто, у якіх адзін рукаў даўжэйшы за другі... Так з'явіліся тысячы рэчаў, якія нельга было скарыстаць, і людзі жахнуліся.

— Як ты мог нарабіць столькі зла, самы добры з самых добрых хлопчыкаў?

І хлопчык заплакаў. Яму так хацелася зрабіць людзей шчаслівымі, але, не ўмеючы, ён дарэмна змарнаваў фарбы.

Хлопчык плакаў так гучна і няўцешна, што яго пачуў самы добры з усіх самых добрых старых — Дзед Мароз. Пачуў і вярнуўся да яго. Вярнуўся і паклаў перад хлопчыкам фарбы.



— Толькі гэта, мой дружа, простыя фарбы… Але яны могуць стаць чарадзейнымі, калі ты пажадаеш гэтага...

Так сказаў Дзед Мароз і знік…

Мінуў год… Мінула два гады. Мінула многа і вельмі многа гадоў. Хлопчык стаў юнаком, затым дарослым чалавекам, а пасля старым… Ён усё жыццё маляваў простымі фарбамі. Маляваў дамы. Маляваў твары людзей. Адзенне. Самалёты. Масты. Чыгуначныя станцыі. Палацы…

І надышоў час, насталі шчаслівыя дні, калі намаляванае ім на паперы пачало пераходзіць у жыццё…

З'явілася шмат выдатных будынкаў, узведзеных па яго малюнках. Паляцелі цудоўныя самалёты. З берага на бераг перакінуліся масты… І ніхто не хацеў верыць, што ўсё гэта было намалявана простымі фарбамі. Усе называлі іх чарадзейнымі…

Так здараецца на белым свеце... Так здараецца не толькі з фарбамі, але і са звычайнай сякерай або швейнай іголкай і нават з простай глінай... Так здараецца з усім тым, да чаго дакранаюцца рукі самага вялікага чарадзея з самых вялікіх чарадзеяў — рукі працавітага, настойлівага чалавека...

?

1. Што падарыў Дзед Мароз самаму добраму хлопчыку?
2. Чаму ніхто не мог выкарыстаць малюнкі добрага хлопчыка? Пацвердзіце свае адказы словамі з тэксту.
3. Якое настаўленне даў Дзед Мароз хлопчыку, аддаючы простыя фарбы? Прачытайце.
4. Што здарылася з малюнкамі праз шмат гадоў?
5. Прачытайце апошні абзац тэксту. Як вы разумееце яго сэнс?
6. Прачытайце план тэксту, падзяліце тэкст на часткі згодна з планам і перакажыце адну з частак.

   План:
   - У пераднавагоднюю ноч.
   - Чарадзейныя фарбы Дзеда Мароза.
   - Маляванне.
   - Простыя фарбы Дзеда Мароза.

## Загадка

Лесам і полем ідзе,
Дзецям падарункі нясе.
А прыходзіць раз у год —
Якраз пад Новы год.

## Ёлка-вясёлка

*Мікола Чарняўскі*



Завітала ў госці ёлка —
З намі Новы год спаткаць.
Зззяе ёлка, як вясёлка,
Рада пець і танцаваць.

Зухаваты, барадаты,
Сыпле жарты Дзед Мароз.
Са Снягурачкай на свята
Падарункі ён прынёс.

Вочы свецяцца ў Снягуркі,
Добра ўсім каля яе:
Нам Снягурка падарункі,
Як усмешкі, раздае.

Што за дзіва — наша ёлка!
Што за свята — Новы год!
Зззяе ёлка, як вясёлка,
Водзіць з намі карагод.

***Зухава́ты*** — бойкі, удалы, малайцаваты.

?

1. Якому святу прысвячаецца гэты твор? Якія клопаты ў Дзеда Мароза, Снягурачкі? Прачытайце.
2. Чаму Новы год любяць святкаваць дарослыя і дзеці?
3. Як вы разумееце выразы *«зззяе ёлка, як вясёлка»*, *«вочы свецяцца ў Снягуркі»*? Падбярыце выразы з блізкім значэннем.

4. Якія падзеі, звязаныя з Новым годам, вам найбольш запомніліся?
5. Якімі радкамі з верша можна падпісаць малюнак?

## Ягады пад снегам

*Рыгор Ігнаценка*

Не раз прыкмячаў багатыя журавінавыя мясцінкі, каб потым, узімку, раскапаць снег і набраць ягад. Але колькі ні капаў, ягад не знаходзіў. Ці хто з вяскоўцаў раней трапляў на мой не́руш, ці птушкі якія з'ядалі — не ведаю.

Тады я інакш зрабіў. Назбіраў галінак і шчыльна заслаў імі багатую на журавіны лапінку. І чалавек не заўважыць, і птушка не падлезе.

Зіма доўгая. Ягады, назапашаныя ўвосень, на капусту-шаткаванку скарысталі ды на кісель. Паступова перанесліся яблыкі з гарышча. Нават мёрзлыя і тыя падабраліся. У сярэдзіне зімы рэдка ў каго добры яблык знойдзеш.

Прыйшоў час журавін. Рукзак за плечы, на лыжы — і на знаёмае балота.

Вось і хвойка з меткай — пасмай сухога моху, прывязанага да ствала. Не спяшаючыся разграбаю снег. Дабіраюся да галінак, уздзіраю іх, і — о цуд! — перада мной рыжы мяккі машок, а на ім, нібы дарагія кара́лі, журавіны гараць. Асцярожна бяру ў пальцы. Яны халодныя, мёрзлыя. Кідаю ў цэлафанавы мяшэчак ягаду за ягадай — звіняць, як крышталікі. Не паспеў і паўмяшэчка набраць, як ужо і госця з'яві-



лася — сойка. Села на вершалінку хвойкі, узбуджана закрычала: «А мне! А мне!» Жоўта-сінім агеньчыкам бліснула сінічка, скача, стараецца з-пад самых рук маіх журавінку выхапіць. Таксама, бач, кісленькага ёй захацелася. Потым даўгахвостая сарока прылянцела, затрашчала на ўсё балота: «Пак-кінь тр-ро-хі! Пак-кінь тр-ро-хі!»

Так я і зрабіў. Няхай, думаю, і сойка ягаду-другую здзяўбе, і сінічка з сарокай пала́суюцца. А можа, яшчэ хто з лясных насельнікаў на гэту прагалінку завітае ды журавінамі пачастуецца. Зімою свежая ягада даражэйшая за цукерку.

***Не́руш*** — некранутая, няходжаная мясціна.
***Па́сма*** — пучок якога-небудзь валакністага матэрыялу.

?

1. Ад чыйго імя вядзецца гаворка ў тэксце?
2. Над чым разважае аўтар у пачатку твора? Што ён прыдумаў?
3. Прачытайце, як былі знойдзены журавіны.
4. Аб чым прасілі птушкі? Прачытайце.
5. Растлумачце сэнс сказа *«Зімою свежая ягада даражэйшая за цукерку»*.
6. Якімі словамі з тэксту вы падпісалі б малюнак?
7. Падрыхтуйцеся пераказаць змест твора блізка да тэксту.

## Зіма

*Якуб Колас*



Мяккі снег лятае пухам,
І канца яму няма,
І нясе сярдзітым духам,
Дзікім сіверам зіма.

Даставайце з вышак сані —
Гайда сцежкі пракладаць
І па белым акіяне
Ўдоўж і ўпоперак гуляць!

?

1. Якое пачуццё выклікаў у аўтара надыход зімы? Якія радкі верша гавораць пра гэта?
2. З чым параўноўваецца снег?
3. Да чаго заклікае аўтар верша?
4. З якой інтанацыяй варта чытаць гэты верш? Які настрой перадаць? Прачытайце верш выразна.
5. Вывучыце верш на памяць (па жаданні).



## На лыжах

*Паўлюк Пранузa*

Толькі выпаў першы снег,
Мы на лыжы сталі...
Звонкі гоман наш і смех
Абуджае далі.

Мы ляцім з крутой гары,
Услед шумяць бярозы.
Не пужаюць нас вятры,
Халады, марозы.

?
1. Які настрой выклікае верш?
2. Як сустрэлі зіму дзеці? Прачытайце адпаведныя радкі верша.
3. Якімі радкамі з верша можна падпісаць малюнак?

## На лыжах

*Тарас Хадкевіч*

1

У ваколіцах вёскі Селішча, куды прыехаў Рыгорка на зімовыя канікулы да дзеда Хведара, вельмі многа зручных для лыжнікаў узгоркаў. Поле за вёскай нагадвае хвалістае мора. Улетку, калі зямля квітнее ў пышнай зеляніне, яны не так кідаюцца ў вочы, а цяпер, у белым убранні, і сапраўды падобныя на замерзлыя ў шторм і зацярушаныя снегам высокія марскія хвалі.

Рыгорка не ўпершыню ў Селішчы. Ён бываў тут разы тры ўлетку, то з бацькам, то з маці, меў тут сяброў, неаднойчы гойсаў з імі па ваколіцах вёскі, нават ездзіў на камбайне ў час жніва, купаўся, лавіў рыбу, хадзіў у далёкі лес у грыбы і ягады. Але аднаго яго, ды яшчэ ў зімовую пару, адпусцілі з дому ў першы раз. Выпраўляючы ў дарогу, маці клапатліва і строга наказвала Рыгорку:

— Будзь асцярожны, нікуды далёка не адлучайся адзін — мала што можа здарыцца.

— Канькі і лыжы — вось твой гарт, Рыгорка! Запомні і дзейнічай, — сказаў бацька.

Канькі як канькі — на іх не вельмі разгонішся ў вёсцы па заснежаных лужынах і рэчцы. А вось лыжы — іншая рэч. Яны ў Рыгоркі новыя, іх купіў бацька ў пачатку зімы. Лыжы такія гонкія, што трэба мець вялікі спрыт, каб утрымацца на іх.

## 2

Вясковыя хлапчукі не замарудзілі прыбегчы, як толькі даведаліся, што да дзеда Рыгорка прыехаў. А праз якую гадзіну ён з сябрамі быў ужо на полі.

Амаль усе прыйшлі на лыжах, але кожны захацеў з’ехаць уніз на новых лыжах Рыгоркі.

Рыгорку ажно не верылася, калі ён назіраў, якія выкрутасы вырабляў на яго лыжах Валодзя. Ён то прысядаў на хаду, то спыняўся на ўсім разгоне, то рабіў нечаканы круты паварот, і снегавая за́мець уздымалася за ім следам. Не, што ні кажы, гэта быў сапраўдны майстар, куды там Рыгорку да яго!

Рыгорка, з'язджаючы ўніз, убіраў галаву ў плечы, сутуліўся і моцна сціскаў кійкі, трымаючы іх напагатове, каб паспець, калі трэба будзе, затармазіць. Ён некалькі разоў упаў, вываляўся ў снезе.

На шчасце, сябры як быццам не заўважалі гэтага. Яны разбрыліся па полі, ганяліся адзін за адным, і вясёлы дзіцячы гоман і смех абуджалі наваколле.

— Ох і хараша! — радасна ўсклікнуў Рыгорка. Сэрца яго білася часта-часта. Ён з прагнасцю ўдыхаў паветра, усё цела яго напаўняла бадзёрасць.



***Гарт*** — тут: занятак, які развівае стойкасць, вынослівасць.

***Го́нкія*** — спрытныя, хуткія.



1. Куды прыехаў Рыгорка на зімовыя канікулы?
2. Які наказ далі бацькі хлопчыку?
3. Чаму сябры лічылі Валодзю сапраўдным майстрам? Як ён катаўся? Прачытайце.
4. Як адчуваў сябе Рыгорка пасля катання на лыжах? Чаму?
5. Прачытайце тэкст самастойна і складзіце план.
6. Перакажыце тэкст сцісла па плане.

## Зімой

*Максім Багдановіч*

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

?

1. Як М. Багдановіч апісвае зіму? У чым бачыць яе прыгажосць?
2. Як паэт выказаў свае пачуцці?
3. З чым параўноўвае аўтар бярозы?
4. Якімі ўяўляюцца паэту зоркі ў марозны зімовы вечар?
5. Падрыхтуйце выразнае чытанне верша.

## Зіма

*Паўлюк Трус*

Зіма... І золкія завеі...
Дарогі снегам замяло.
Таполі ў наквеці сівеюць.
І нікнуць бомы за сялом.

Як здані, белыя бярозы
Да болю журацца ў прастор.
На іх узорныя марозы
Чароўны выткалі ўзор.

Нямая бель... Гаі... Дубровы...
Маўчаць за возерам стагі,
Згубілі вербы каляровасць,
А там... снягі... снягі...
снягі...

Які прастор... У прасторы іней...
Я сам не ведаю, чаму
Люблю заснежныя раўніны
І беларускую зіму!

Зіма!.. Зіма!.. У палях туманы...
Нервова плачуць палазы.
Бялеюць сонныя паляны
У завеях дзікае красы.



***Бо́мы*** — званочкі ў выглядзе полых металічных шарыкаў з кавалачкамі металу ўсярэдзіне, якія прымацоўваюцца да дугі ці хамута.

***Здань*** — вобраз, які ўзнікае ва ўяўленні, прывід (тое, што здаецца).

***Зо́лкі*** — сыры, пранізлівы, халодны (пра надвор'е, вецер, дождж).

***На́квець*** — тут: шэрань, іней.



1. Якія зімовыя малюнкі паўстаюць перад вачамі пры чытанні верша?
2. У чым бачыць прыгажосць зімы аўтар? Як ён выказаў свае пачуцці?
3. Якія словы паўтараюцца ў вершы? Чаму?
4. Як вы разумееце выраз *«Бялеюць сонныя паляны ў завеях дзікае красы»*? А як можна сказаць інакш?
5. Падрыхтуйцеся чытаць верш выразна.

# Зіма-падманшчыца

*(Казка)*

*Азіза Ахмедава*



Прыляцела белагрудая з вілаватым хвосцікам ластаўка, прынесла першую вестку пра вясну. Усе ўзрадаваліся…

Зайцы саромеліся сваёй вопраткі. Іх белыя кажушкі вылінялі, былі брудныя. Яны нікому не маглі паказацца на вочы.

Мядзведзі, якія ўсю зіму праспалі ў сваіх бярлогах, схуднелі, бедалагі, і аслабелі.

Вераб'і цвыркалі і то пераскаквалі з галіны на галіну, што ўкрыліся бухматымі пупышкамі, то корпаліся ў зямлі, снег на якой зусім растаў.

Усе падумалі, што прыйшла сапраўдная Вясна, і зарадаваліся, пачалі віншаваць адзін аднаго. Але было неяк дзіўна. Не адчувалася вясенняга цяпла. Ды і ўсмешка ў Вясны была нейкая незвычайная. Калі б прыйшла сапраўдная Вясна, яна прынесла б зайцам шэрае футра. Мядзведзі не спалі б у бярлогах, а грэліся б на сонейку, набіраліся сілы. У вераб'ёў ужо нарадзіліся б малыя дзіцяняткі. Дрэвы атрымалі б новае ўбранне. А кветкі і трава паказаліся б на белы свет.

Вішня і Алыча сказалі кветкам і лісцікам, каб яны не спяшаліся, пачакалі трохі — нешта вельмі халоднае дыханне ў гэтай Вясны. Лісцікі спалохаліся,

а ўпартыя кветкі не паслухаліся Вішні і Алычы. Расхінулі свае зялёныя кашулькі, расплюшчылі вочкі і пацягнуліся да сонейка. Яны былі такія шчаслівыя!

Старая Зіма-падманшчыца зларадна заўхмылялася: «Бач ты, як яны ўсе зарадаваліся. Ну, пачакайце, зараз я вам пакажу Вясну!»

Яна скінула зялёнае адзенне і вянок, наслала на ўсё жывое вецер, ураган, мароз і снег.

Паляцелі прэч птушкі, пахаваліся звяры. Толькі кветкам і траве не было дзе схавацца.

Зіма сарвала кволыя пялёсткі. Замарозіла, высушыла іх. Але час зімы ўжо мінуў. Падманшчыца зусім знясілела. Губляючы сваю ўладу над прыродай, яна пачала адпаўзаць у горы.



А сапраўдная Вясна ўжо ішла па зямлі, надзеўшы духмянае ўбранне з маладой зялёнай травы і вянок з самых прыгожых кветак. Залатыя промні сонца рассыпаліся па яе плячах. Яе непераможную хаду ўжо ніхто не мог спыніць і затрымаць.

Добры дзень, маладая, прыгожая, жаданая Вясна!

?

1. Якую добрую вестку прынесла ластаўка?
2. Як успрынялі навіну птушкі і звяры? Прачытайце.
3. Якія сілы змагаюцца паміж сабой у казцы? У якіх месцах тэксту гэта асабліва падкрэсліваецца? Прачытайце.

4. Якія моманты казкі добра было б праілюстраваць? Падрыхтуйце адзін-два слоўныя малюнкі да тэксту.
5. Падзяліце казку на часткі, складзіце план і падрыхтуйцеся да пераказу.

### Народная прыкмета

✦ Калі зіма снежная, лета будзе дажджлівае.

## Мароз

*Янка Купала*

Іду я, сняжысты, усясільны,
Па сцежках — пуцінках пустых
І ночкай і днём безупынна
Пільную абшараў сваіх.

Палац мой — лес буйны, вяцвісты —
Ірдзіцца брыльянтамі скрозь,
Мне воўк і мядзведзь у паслугах,
Мне служыць вавёрка і лось.

Як пухам, сняжком пасыпаю
І хвою, і елку, і клён;
Хто ў госці ка мне забярэцца,
Тулю тых, галублю іх сон.



1. Чым гэты верш нагадвае казку?
2. Знайдзіце мастацкія выразы, якія характарызуюць Мароза. Прачытайце.
3. Падбярыце да слоў *ірдзіцца, вяцвісты* словы, блізкія па значэнні.
4 Падрыхтуйце выразнае чытанне верша.

## Пакінуты лебедзь

Разгледзьце малюнак. Складзіце па ім апавяданне.



Словы для выкарыстання: пералётныя птахі над вёскай, Мікола і Алеся, каля крыніцы, апусціў дзюбу, не адлятаў, спачатку дзічы́ўся, пшанічныя зярняткі, ва́раная бульба, адчуў ласку людзей, зберагчы птушку.

## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ

**1.** Суаднясіце прозвішча аўтара і назву яго твора.

| | |
|---|---|
| Леў Талстой | «Зіма» |
| Барыс Сачанка | «Знаходка» |
| Клаўдзія Каліна | «Лясная сталоўка» |
| Васіль Гурскі | «У зімовым лесе» |
| Алесь Ставер | «Цецярук і лісіца» |
| Яўген Пярмяк | «Чарадзейныя фарбы» |
| Рыгор Ігнаценка | «Люты» |
| Мікола Корзун | «Ягады пад снегам» |

**2.** З якіх твораў узяты ўрыўкі? Назавіце аўтара кожнага твора.

а) «Я трымаў яблык за тоненькі хвосцік, пакручваў то жоўтым, то чырвоным бокам і не мог нацешыцца. Потым паднёс да рота і адкусіў. Яблык быў халодны, салодкі і духмяны»;

б) «Раптам пачуўся лёгкі шоргат. Гэта казуля прыбегла ў сталоўку. Бабёр нырнуў у ваду і палез у сваю хатку. Але і казуля доўга не затрымалася...»;

в) «Вось і хвойка з меткай — пасмай сухога моху, прывязанага да ствала. Не спяшаючыся разграбаю снег. Дабіраюся да галінак, уздзіраю іх, і — о цуд! — перада мной рыжы мяккі машок, а на ім, нібы дарагія кара́лі, журавіны гараць»;

г) «Лісіца пачула сабак, навастрыла вушы і хацела бегчы.

— Куды ж ты? — сказаў цецярук. — Цяпер жа загад, сабакі не будуць чапаць!».

**3.** Адгадайце па малюнках творы, з якімі пазнаёміліся ў гэтым раздзеле. Назавіце іх аўтараў.







**4.** Закончыце радкі вершаў.

а) «Завітала ў госці ёлка —
З намі Новы год ...
Ззяе ёлка, як вясёлка,
Рада пець і ...»;

б) «Дзятве не ўседзець у двары,
Бо вабіць сцежка ...
І гоняць саначкі з гары,
Аж іскры з грудаў ...»;

в) «Мяккі снег лятае пухам,
І канца яму няма,
І нясе сярдзітым ...,
Дзікім сіверам ...»;

г) «Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы, мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў ...,
І волен лёгкіх санак ...».

**5.** Успомніце вершы пра зіму Якуба Коласа, Алеся Ставера, Янкі Купалы, Змітрака Бядулі. Якое апісанне зімы вам больш падабаецца? Чаму?

**6.** Раскажыце, што было далей.

*1 варыянт.* «Было ціха. І раптам узняўся вецер. Неба паступова зацягвалася цёмнай снегавой хмарай...».

*2 варыянт.* «На Новы год нашу хату заўсёды ўпрыгожвае ёлка. Як рупліва мы прыбіраем яе кожны раз!..».

# ВЯСНА ПРЫЙШЛА, КАБ СВЯТАМ СТАЦЬ



## Калі пачынаецца вясна

*Антон Бялевіч*

— Калі пачынаецца вясна? — пытаўся я ў нашага дзеда Міхала. Ён быў лысы, барадаты і вельмі мудры. Ён усё ведаў.

— Вясна пачынаецца тады, — гаварыў дзед, — калі шчупак хвастом расколе лёд на рэчцы, калі забушуе крыгалом, калі вада падыдзе да нашага агарода.

Вада падыходзіла да саменькага агарода, а вясны не было. Холадна...

— Калі пачнецца вясна?

— А тады, калі з кляновай галінкі закапае сок у збанок.

Я надрэзаў кляновую галінку, капаў сок у збанок, а вясны не было. Холадна...

— Калі пачнецца вясна?

— Бусел на крыле прынясе вясну з цёплага краю.

Прыляцелі буслы, не прынеслі вясны. Холадна...

— Калі пачнецца вясна?

— А тады, калі зязюля закукуе ў бары, калі на елках маладыя шышкі стануць такія чырвоныя, як грабеньчыкі ў пеўняў.

Закукавала зязюля, смалою-жывіцай, карою запахлі хвоі ў цёмным бары. Маладыя шышкі на елках пачырванелі, заіскрыліся, як у пеўняў грабеньчыкі. Вясёлыя іскрынкі ўпалі на траву, падскочыла ад радасці трава, а ў траве засінелі, зачырванелі, заружавелі краскі. Цеплынёю, мядовым водарам дыхнулі мне ў твар тыя лугавыя краскі. І тады я зразумеў: з шэрай зязюлі, з яе самотнага голасу, з чырвоных маладых яловых шышак пачынаецца цёплая вясна...

Вясна-красна на ўвесь свет!

?

1. Пра што спытаўся хлопчык у дзеда Міхала? Ці спраўдзіліся словы мудрага старога наконт пачатку вясны?
2. Знайдзіце і прачытайце апісанне абуджэння прыроды. Які настрой выклікаў у вас гэты ўрывак?
3. Уявіце, што вы мастак і задумалі напісаць карціну ранняй вясны. Ці дапаможа вам у гэтым апавяданне Антона Бялевіча? Які ўрывак найбольш падыходзіць для гэтага?
4. Як вы думаеце, калі пачынаецца вясна?
5. Падрыхтуйцеся чытаць па ролях размову дзеда і хлопчыка.

# Вясёлы ручаёк

*Адам Русак*

Звініць, пяе, іскрыцца
Вясёлы ручаёк,
Жывой вадою поіць
Травінку, каласок.

Лісточак пад вярбою
Спалошча ў расе,
Лугам расу пакіне,
А песню панясе.

Звініць ручай, спявае
У полі-шырыні,
Назад дарог не знае,
Не знае цішыні.



?

1. Які настрой выклікае верш?
2. Як вы разумееце выраз *«лісточак пад вярбою спалошча ў расе»*? Знайдзіце іншыя выразы, з дапамогай якіх паэт малюе вясёлы ручаёк.
3. Стварыце свае слоўныя малюнкі да верша.
4. Прачытайце верш выразна.

## Па дарозе са школы

*Алесь Якімовіч*

Цёплым вясновым днём хлопчыкі-аднакласнікі вярталіся са школы. Хутка будзе ручай, а там і вёска побач, рукою падаць.

Перагаворваючыся, жартуючы, яны непрыкметна падышлі да ручая.

— Наш ручай сёння вунь як разліўся! — заўважыў Косця.

— Высокая вада кладку можа знесці, — занепакоіўся Алесь.

І сапраўды, вясенняя паводка сарвала кладку.

Да хлопчыкаў падышла бабуля. Яна, відаць, ужо даўно адпачывала тут.

— У госці да ўнучкі сабралася... Што рабіць, не ведаю, — бабуля бездапаможна развяла рукамі.

Хлопчыкі адышліся ўбок.

— Давайце абыдзем ручай, — прапанаваў Рыгорка.

— Мы абыдзем, а бабуля і да вечара да сваёй унучкі не дабярэцца, — не пагадзіўся Алесь.

— Трэба новую кладку зрабіць! — рашуча рассёк рукою паветра Вова. — Хіба адна бабуля ў вёску ідзе? Уяўляеце, што будзе тут, калі сцямнее?

— Давайце знойдзем бервяно і зробім кладку, — падтрымаў Вову Алесь.

Бервяно ляжала каля ручая. Хлопчыкі ледзь змаглі падняць яго: цяжкае вельмі. Так-сяк прынеслі і перакінулі на другі бераг. Рыгорка зірнуў на бабулю і сказаў:

— Яшчэ парэнчы трэба зрабіць.



На абодвух берагах ручая хлопцы ўбілі ў зямлю калкі, а парэнчы прымацавалі да іх лазою.

— Пераходзьце, не бойцеся, — запрасіў бабулю Алесь і першым праз кладку перабег, каб бачыла бабуля, што кладка надзейная.

Жанчына асцярожна ступіла на кладку, узялася рукамі за парэнчы і, перайшоўшы на другі бераг, падзякавала:

— Дзякуй вам, дзеткі.

Весела перагаворваючыся, аднакласнікі пабеглі ў вёску.

***Парэ́нчы*** — апора для рук на трапах, лесвіцах, кладках.

?

1. Адкуль вярталіся аднакласнікі? Што яны ўбачылі?
2. Што занепакоіла хлопчыкаў?
3. Чаму яны вырашылі зрабіць новую кладку?
4. Як яны рабілі кладку?
5. За што ім падзякавала бабуля?
6. Падрыхтуйце падрабязны пераказ тэксту.

## Скорагаворка

З горкі-горачкі, дзе грэчка, ручаёк прыбег да рэчкі.



## Явар і каліна

*Янка Купала*



Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам.

Лісцікі зе́леняй хваляцца
Небу панятлівай мовай:
Росамі мыюцца раніцай,
Песцяцца сонцам паўднёвым...

?

1. Які настрой выклікаў верш? Пастарайцеся перадаць гэты настрой пры чытанні.
2. Знайдзіце сказы, у якіх словы ўжыты ў пераносным значэнні.
3. Якія словы і выразы дапамагаюць уявіць карціну вясновай прыроды? Прачытайце.
4. Падрыхтуйцеся чытаць верш выразна.

## Падсуседзі

*Яўген Крамко*

Дзядулямі і бабулямі сталі нават тыя дзеці, якіх у свой час «прынеслі» буслы, што жылі на разгалістай ліпе над Нёманам. Старанныя працаўнікі, паднаўляючы сваю сядзібу кожны год, так яе разбудавалі, што акрамя іх там хапала месца і галкам, і вераб'ям. Але і ліпа клапацілася аб сабе: яе голле падымалася, расло і з гадамі ахінула буслянку так, што замінала садзіцца птушкам.

Увесну дзве пары буслоў, што вярнуліся з выраю, пачалі барацьбу за старое гняздо. Каб мірна вырашыць спрэчку, хлопцы знайшлі на калгасным двары непатрэбнае кола і замацавалі яго на верхавіне суседняй ліпы. Яно было адкрыта, бы сподачак, і перавабіла-такі адну бусліную сям'ю.

Дні чатыры шчыравалі птушкі, дабудоўваючы сваё жытло. Яно не зусім было гатова, а бусліха ўжо села на яйкі. Яе сябар яшчэ многа дзён падпраўляў кватэру.

Летам у навасёлаў крыху пазней, чым у старой буслянцы, вывелася двое малых. Надышоў час, калі бусляняты пачалі станавіцца на ногі і падскокваць на гняздзе.

Аднойчы чатыры маладзенькія чарнадзюбікі зляцелі са старога гнязда і, не ўмеючы яшчэ добра трымацца ў паветры, селі да сваіх суседзяў, «пасадачная пляцоўка» якіх была больш адкрытай і выгоднай. Адсюль іх прагнаць ужо ніхто б не здолеў. Так і засталіся ў падсуседзях. Ранейшая варожасць, відаць, забылася, бо абедзве бусліхі лятaлі за Нёман, прыляталі з поўнымі валлякамі і выкідвалі ежу на сярэдзіну гнязда. А маладыя заўзята, адно перад адным, хапалі яе, але між сабой не сварыліся.

Пасля некалькіх дзён жыцця ў падсуседзях буслы па адным пачалі адважвацца злятаць з гнязда на якую хвіліну.

Праз тыдзень-два сталі выпрабоўваць крылы і два маладыя гаспадары гнязда. Буслы-падсуседзі сачылі за іх першымі палётамі. Бусляня, баючыся, стане на краёчак гнязда, асмельваючыся, памахае крыламі.

А потым кульнецца ўніз, зробіць невялікі круг і задаволенае спяшаецца назад. Большыя сочаць за палётам, заахвочваючы: махаюць крыламі і адступаюцца ад таго месца, куды хоча сесці вучань...

Ідзе пажылая жанчына, затрымалася ля мяне:

— Відаць, скора адляцяць? — пытаю.

— Не скора. Вось калі месяц падыдзе пад поўню, неба стане чыстае, добра будзе відаць Млечны Шлях — тады толькі.

Сапраўды, у канцы жніўня буслы ўсё часцей пакідалі гняздо на цэлы дзень, збіраліся ў вялікі карагод на грудку за Нёманам, а 28-га пакінулі родны край.

Успамінаецца гэты выпадак і прыходзіць думка: «Вось бы некаторым людзям валодаць пачуццём такога добрасуседства».



***Валля́к*** — пашыраная частка страравода ў птушак, дзе папярэдне перапрацоўваецца ежа.

***Шчырава́ць*** — дбайна, старанна рабіць што-небудзь.

?

1. Куды прыляцелі буслы ўвесну? Што не маглі падзяліць дзве пары птушак?
2. Як вырашылі спрэчку хлопцы? Прачытайце.
3. Чаму маладзенькія чарнадзюбікі засталіся ў падсуседзях?
4. Як бусляняты апрабоўвалі крылы? Да чаго яны рыхтаваліся?
5. Як вы разумееце апошнія радкі тэксту?
6. Прачытайце тэкст самастойна і падрыхтуйце план для пераказу.

## Загадка

Праз горы, даліны,
Праз тысячы сёл
З далёкай краіны
Вярнуўся пасол.
Спаважны, чыноўны,
Ён стаў на страсе,
У ботах чырвоных,
Каб бачылі ўсе.

## Буслы

*Клаўдзія Каліна*

Здарылася гэта яшчэ ў той час, калі буслы ў наш край рэдка прыляталі і ногі ў іх тады былі не чырвоныя, як цяпер, а белыя.

Аднаго разу вясной прыляцелі яны ў нашу пушчу і селі на сухую верхавіну высокай сасны, што расла на ўзлессі.

— Вось тут і зробім сабе гняздо, — сказаў бусел. — Тут рэчка блізка, балота побач, вужоў і жаб многа, будзе нам і нашым дзецям спажывы даволі.

І пачалі буслы насіць на дрэва сухое ламачча, мох, сталі будаваць сабе дамоўку.

А трэба сказаць, што вясна таго года была няўдалая: то сонца прыпячэ, то снег пойдзе, то мароз ударыць.

Прачнуліся аднойчы бусел з бусліхай на досвітку, а вакол усё снегам пакрыта. Паляцелі яны на балота,

хацелі спажыву сабе здабыць, але нічога не знайшлі. Усё замерзла, заледзянела. Памарозілі буслы свае босыя ногі і вярнуліся назад.

А тут новая бяда! Вецер разбурыў і раскідаў гняздо.

Селі птушкі на сасне і зажурыліся.

— Што ж мы з табой будзем рабіць? — загаласіла бусліха. — Давядзецца памерці з голаду і холаду...

Падумаў, падумаў бусел і так адказаў буслісе:

— Не плач, сяброўка дарагая, давай паляцім да людзей. Можа, яны нас пусцяць пагрэцца. Бачыш, вунь, на ўзлессі, хата стаіць. Давай папросімся туды.

А ў той старэнькай хатцы жылі дзед і баба. Ніякае гаспадаркі ў іх не было, адна старая сівая авечка. Баба прала з воўны ніткі, рабіла панчохі добрым людзям. А дзед лавіў рыбу. Так яны і жылі.

Тае́ раніцы дзед з бабай якраз былі ў хаце. Раптам чуюць:

— Тук, тук, тук! — пастукаўся нехта ў дзверы.

— Пайдзі, дзед, паглядзі, хто гэта там стукае, — сказала баба.

Адчыніў дзед дзверы, глядзіць — ажно буслы стаяць. Змерзлі, дрыжаць. То адну, то другую нагу падымаюць...

— Ой, баба, зірні, якія госці да нас прыйшлі! — гукнуў дзед.

— Заходзьце, заходзьце хутчэй у хату, — сказала баба.

Упусцілі дзед з бабай буслоў у хату, абагрэлі, накармілі чым толькі маглі.



Паглядзела баба на босыя ногі птушак і кажа:

— Дам я вам, буслы, панчохі цёплыя, каб не мерзлі вашы ногі, а то вёсны ў нас халодныя часта бываюць.

І дала птушкам па пары панчох. Ды толькі панчохі тыя чырвоныя былі, з пафарбаванае пражы.

Надзелі буслы панчохі, і так ім зрабілася добра і цёпла, што і мароз не страшны.

Дзед старое кола на страсе сваёй хаты прыладзіў, і буслы зрабілі сабе новае гняздо, больш надзейнае і трывалае.

Пачалі з таго часу буслы каля людзей трымацца, рабіць свае дамоўкі на стрэхах, на дрэвах, бліжэй да людскіх паселішчаў.

А тыя чырвоныя панчохі, што дала ім добрая бабка, буслы і цяпер носяць.

?

1. Якая бяда напаткала буслоў? Прачытайце.
2. Якімі вы ўяўляеце дзеда і бабу? Дайце ім характарыстыку.

3. Прачытайце казку самастойна і падзяліце яе на часткі. Адзначце ў кожнай частцы галоўнае.
4. Перакажыце тэкст ад імя бабы *(1 варыянт)*, ад імя дзеда *(2 варыянт)*.

## Вясна на Палессі

*Якуб Колас*

Свішчуць птушкі над балотам,
Аж гамоняць лес і гай,
І далёка за чаротам
Бухнуў, нібы ў кадзь, бугай.

Па азёрах пайшлі крыгі…
Раравалы аж гудзяць.
Над балотам стогнуць кнігі,
Жураўлі ўгары крычаць.

Аж душа мая святлее,
І спяваць я зноў гатоў.
Рады ўсе, што сонца грэе,
Што няма больш халадоў.



***Бугáй*** — начная балотная птушка сямейства чапляў, якая, апусціўшы дзюбу ў ваду, утварае гукі, падобныя да рову бугая (быка).

***Кадзь*** — кадка, вялікая драўляная пасудзіна.

***Кні́гі*** — тут: кнігаўкі — птушкі, якія жывуць на балотах, сырых лугах.

1. Як паэт расказвае пра наступленне вясны?
2. Якія прыродныя з’явы апісвае Якуб Колас?
3. Якімі радкамі з верша можна падпісаць малюнак?
4. Як вы разумееце выразы *«бухнуў, нібы ў кадзь, бугай», «аж душа мая святлее»*?
5. Як мяняецца настрой аўтара? Пацвердзіце словамі з тэксту.

## Загадка

Усе яго любяць, чакаюць, а ўбачаць — адразу заплачуць.

## На крызе

*Янка Маўр*

### 1

У канцы вёскі быў мост цераз раку Свіслач. Мікітка часцей за другіх праводзіў час ля моста. Нават цяпер, у самы ледаход, ён цэлыя дні бавіўся тут.

— Што ты сабе думаеш? — казала яму маці. — Ты ж з гэтымі крыгамі ў ваду трапіш.

— Не, не траплю! — упэўнена адказваў Мікітка.

Пакуль лёд ішоў густа, пакуль крыгі лезлі адна на другую, трашчалі і кружыліся, Мікітка не мог прыняць у гэтай справе ніякага ўдзелу. Ён мог толькі

з цікавасцю наглядаць. Але хутка лёд парадзеў, крыгі паплылі па воднай прасторы вольна, лёгка і часам пачалі затрымлівацца ў ціхай завадзі. Хіба можна тут утрымацца і не выштурхнуць вялізную крыгу на струмень?

Мікітка, стоячы на беразе, вельмі старанна рэгуляваў рух крыг. Як толькі спыніцца якая ў завадзі, ён зараз жа і выганіць яе адсюль кіем.

Але вось з-пад моста выйшла вялікая тоўстая крыга, прайшла каля самай завадзі і прыпынілася. Падумала, падумала трохі — ды і пачала ціхенька заварочвацца ў завадзь, да берага.

Крыга закрыла сабой усю завадзь. Адштурхнуць яе Мікітка не меў сілы. Ды і не адштурхваць, а ўзабрацца на яе захацелася Мікітку.

Асцярожненька ступіў ён на крыгу адной нагой, другой. Тая нават не зварухнулася. Значыць, можна было на ёй адчуваць сябе спакойна.

І Мікітка адчуў сябе на ёй так спакойна, як на беразе. І гэтак жа, як з берага, стаў рэгуляваць рух іншых крыг. Цяпер ён ужо мог зачапіць крыгу, якая ішла міма, сутыкнуць з другой і пацяшацца, як яны стукаюцца лбамі.

А калі ён падцягваў да сябе крыгу, то гэтым самым адцягваў ад берага і тую, на якой сам стаяў. Патроху яна пачала адсоўвацца ад берага... Але Мікітка так захапіўся сваёй гульнёй, што зусім гэтага не заўважыў. А калі заўважыў, то яго крыга ўжо больш як на метр ад’ехала ад берага.

## 2

Закрычаў Мікітка, пачаў кідацца туды, сюды, але дарэмна: крыгу падхапіла плынь і панесла.

Пачуць Мікітку з вёскі ніхто не мог, бо хаты былі не так блізка і несла яго зусім у другі бок. Заставалася адна надзея, што ўбачыць і пачуе яго хто-небудзь у полі. Але хто ў такое разводдзе будзе хадзіць па полі, воддаль ад дарогі і хат?

Спачатку Мікітка доўга крычаў і плакаў, а потым убачыў, што плач яму ніяк дапамагчы не можа, і сцішыўся. Тым больш, што страху пакуль што ніякага не было. Крыга была вялікая і тоўстая і зусім лёгка трымала на сабе Мікітку.

Але нядоўга было такое шчасце. Крыга зачапілася за алешыну і прыпынілася. У гэтую мінуту ззаду наехала на яе другая крыга і штурханула так, што Мікітка паляцеў дагары нагамі. А калі ён устаў, то ўбачыў, што ад яго крыгі засталася толькі палавіна. Яна паплыла далей, але ўжо не так спакойна, як раней. Ад кожнага руху хлопчыка яна гойдалася і гатова была перакуліцца. Мікітка ўжо баяўся стаяць, ён сеў на лёд і дрыжаў ад страху. Зноў пацяклі ў яго слёзы, зноў пачаў крычаць — і зноў ніякага адказу. Наўрад ці мог тут дзе быць чалавек.

Аднак адзін чалавек знайшоўся, ды толькі... у небе! З дзясятак кіламетраў ад вёскі быў аэрадром, і жыхары прывыклі, што над імі бадай кожны дзень кружацца вучэбныя самалёты. На іх нават перасталі звяртаць увагу. Але на гэты раз Мікітка падняў угару і вочы, і рукі і нават закрычаў:



— Дзядзечка, дапамажы!

Лётчык праляцеў міма досыць нізка. Праз мінуту ён вярнуўся і праляцеў над самымі хатамі — ледзь стрэхі не пазрываў. Людзі павыскаквалі з хат, глядзяць, дзівяцца. А самалёт паляцеў назад і праляцеў над Мікіткавай галавой. Сотні вачэй накіраваліся ў гэты бок, але з вёскі ніхто не мог убачыць хлопчыка на крызе.

Самалёт зноў вярнуўся да вёскі, зноў праляцеў над хатамі. І тады людзі ўбачылі, што лётчык высунуў руку і махнуў ёю.

— Глядзіце, глядзіце, нешта кінуў! — пачуліся крыкі. — Бяжыце, лавіце!

На зямлю паляцела нешта маленькае, чорнае. Гэта была рукавіца, а ў ёй запіска: «Хлопчык на крызе».

Самалёт зноў пачаў кружыцца над тым месцам, дзе плыў Мікітка, а потым паляцеў далей.

## 3

Пакуль самалёт лятаў вакол яго, хлопчык меў надзею, што лётчык яго ўбачыў і хоча дапамагчы. А калі самалёт паляцеў, то Мікітку зноў ахапіў жах. За гэты час ад яго крыгі адламаўся яшчэ адзін кавалак. Мікітка лёг на крыгу і прыціснуўся да яе, дранцвеючы ад страху. Увесь свет яму здаўся цёмным, пустым. Шкада яму стала самога сябе, і ён затросся ад плачу.

Вось наперадзе плыве вялізная крыга. Малая Мікіткава крыга плыве хутчэй. Яна павінна дагнаць вялікую. Калі стукнецца, што тады будзе?..

«А што, каб пераскочыць на яе?» — мільганула думка.

Мікітка перастаў плакаць, пачаў прыглядацца, меркаваць: можна пераскочыць. Не дапусціць, каб яны стукнуліся, а то гэта раскрышыцца ці перакуліцца. Трэба падрыхтавацца, падпільнаваць і скокнуць.

Страх прайшоў. Не адчувалася і холаду. Усе думкі Мікіткі накіраваліся на другое. Ён прыўзняўся, рыхтуючыся скокнуць. Нічога, трэба толькі спакайней трымацца.

Да вялікай крыгі заставалася паўметра, меней, меней...

Р-раз! — і Мікітка, адштурхнуўшы нагамі сваю крыгу, бразнуўся на вялікую. Тая толькі трошкі нахілілася.

Мікітка аж засмяяўся ад радасці: здорава ён скокнуў. На гэтай крызе можна і да берага даехаць. А калі

яна паломіцца, то па дарозе можна пераскочыць на другую. Або трапіцца дрэва якое ці астравок. Тут і не глыбока — паплавы, пешшу можна дайсці.

Калі пад'ехалі людзі, то са здзіўленнем убачылі, што Мікітка адчувае сябе як дома — спакойны, вясёлы, нібы з ім нічога асаблівага не здарылася. Ні яны, ні сам Мікітка не здагадаліся, што такім ён стаў тады, калі забыўся пра страх ды пачаў разважаць і дзейнічаць.


***Дранцве́ць*** — дзеравянець, траціць адчувальнасць.
***За́вадзь*** — невялікі заліў рэчкі або возера з запаволеным цячэннем.
***Струме́нь*** — вузкі паток вады.
***Ці́хая завадзь*** — бяспечнае, спакойнае месца.



1. Як Мікітка апынуўся на крызе?
2. Як паводзіў сябе хлопчык на крызе? Што ён адчуваў? Прачытайце тыя месцы ў тэксце, якія пацвярджаюць вашы выказванні.
3. Чаму захваляваўся Мікітка?
4. Хто першы ўбачыў хлопчыка на крызе? Чаму хваляваўся Мікітка? Як паводзіў сябе лётчык?
5. Што дапамагло Мікітку пераадолець страх?
6. Знайдзіце ў апавяданні радкі, якімі можна падпісаць ілюстрацыю.
7. Як вы ацэньваеце паводзіны хлопчыка?
8. Прачытайце тэкст самастойна. Дайце загаловак кожнай частцы. Перакажыце тую частку, якая вас найбольш усхвалявала.

## Вясна

*Янка Купала*

Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы,
Болей не мерзне душа ні адна,
Сонейкам цёпленькім, зеленню вабнаю
Абдаравала зямельку вясна.

Рэчкі бурлівыя, учора санлівыя,
Сёння усталі, плывуць і бурляць;
Рыбкі шмыглівыя скачуць, купаюцца,
К небу прыветна з вадзіцы глядзяць.

?

1. Пра наступленне якой пары года гаворыцца ў гэтым вершы?
2. Якія прыкметы вясны апісвае Янка Купала? Параўнайце іх з тымі, якія вы заўважылі ў прыродзе.
3. Як вы разумееце выраз *«болей не мерзне душа ні адна»*?
4. Падрыхтуйце выразнае чытанне верша.

## Загадкі

Маленькае, залаценькае, усё навокал асвеціць.

Адзін лье, другі п’е, а трэці расце.

Чараўніца да нас
Завітала —
Усё ажыло,
Заспявала.

# У мамінай школе

*Уладзімір Юрэвіч*

1

Тараскава мама — ткачыха. Прыходзіць дамоў, калі Тараска ўжо кладзецца спаць.

— Чаму ты, мамачка, заўсёды познішся дамоў? — пытаецца ён.

— А хіба дамоў можна спазніцца? — усміхаецца мама. — Позняцца на работу, у школу, у кіно... А дамоў, калі ні прыйдзеш, заўсёды паспееш.

Яна стаіць у калідорчыку каля люстэрка. Скідае капялюшык, прычэсвае валасы. Пышныя такія, крыху завітыя і чорныя-чорныя ў мамы валасы. А ў Тараскі белыя, крыху залацістыя. Як у таты. Бабуля кажа — «ільняная ты мая галоўка». Толькі вочы ў Тараскі маміны — карыя. Што гузікі, бліпічаць. І нос кірпаты, крыху ў рабацінні.

— Дык, кажаш, пазнюся дамоў? — загаворвае мама. Яна памылася і прысела на канапку, дзе спіць сын. — Работы шмат.

— Там жа ў вас машыны ўсё робяць. Ты мне, мамачка, сама гаварыла, — не разумее Тараска.

— Але машыны тады працуюць, калі імі кіруюць. Вось як тата бульдозерам, — тлумачыць мама.

— Дык жа бульдозер ездзіць, а ткацкая машына на месцы стаіць. Уключыў і ўсё, — не здаецца Тараска.

— Уключыў і глядзі пільна. Нітка парвецца, тады брак будзе.

— А што гэта — брак?

— Ну, калі не дагледзіш усё як трэба, — мама задумваецца, як бы сказаць больш зразумела. — Выйдзе тады тканіна з дзірачкамі. Ніхто браць не будзе. Ну, спі, сынку! А я крыху пачытаю, у мяне заўтра школа.

— Якая школа?

— Дзяўчаты-старшакласніцы прыходзяць да нас вучыцца на ткачых. Урокі працы ў іх не ў сваёй школе, а ў нашай, камбінатаўскай.

— А-а-а... — праз сон мармыча Тараска. — І ў вас школа. А чыстапісанне ёсць?

— Не, няма... — адказвае маці і ўкрывае сына.

— Вось до-обр-р-ра, — прамармытаў Тараска і заснуў.

## 2

Было гэта перад жаночым днём. Да свята сваіх мам, бабуль і сястрычак дзеці даўно рыхтавалі падарункі. І ўсё гэта ведала толькі іх настаўніца Вольга Пятроўна. Яна дамовілася з камбінатам, каб дазволілі ім прыйсці павіншаваць мам з наступаючым святам...

Ткацкі цэх сустрэў дзяцей густым гулам машын. Некаторыя баяцца, туляцца да настаўніцы. А Тараску машынны гул прывычны. Ён жа з татам часта на бульдозеры ездзіць.

Светла-светла ў цэху, як на вуліцы. І цэх падобны на вуліцу. Доўгую-доўгую. Толькі не дамы абапал яе стаяць, а станкі. Ля кожнага станка — павуцінне ніток: белых, чырвоных, сініх...

Ідуць дзеці, азіраюцца.



— Ма-а-ма-а! Ма-а-ма-а! — раптам закрычаў Тараска.

Яна і не чуе. Занятая. І нейкая не такая, як дома. У васільковым халаце. Чырвоная касынка на галаве. Ходзіць ад станка да станка, прыслухоўваецца, прыглядаецца. Вось спынілася і рукамі нешта перабірае. Каля мамы дзве дзяўчынкі. Сапраўды — школьніцы. Яна нешта гаворыць ім. І тыя пачынаюць перабіраць пальцамі павуцінне нітак, што бягуць са шпулек. А шпулек тых — лічыў, лічыў Тараска і збіўся...

Стаяць школьнікі, дзівяцца. Тараскава мама павярнулася да праходу і ўбачыла гасцей, Тараску, заўсміхалася. Падбегла. За плечукі ўзяла, патрэсла. Ды зноў да станкоў.

Асобныя нітачкі спяшаюцца ў станок. А між нітак з краю ў край нешта бліскае, страляе... Гэта —

чаўнок. І выплывае з другога боку, нібы ў казцы, чырвона-блакітная рака. Яна адразу знікае, згортваецца ў трубку, у сувой такі.

Зазвінеў прарэзлівы званок. Гул пачаў цішэць. Святла паменшала. І зусім ціха стала. Гэта — абедзенны перапынак.

## 3

Ткачыхі запрасілі сваіх маленькіх гасцей у светлую залу ў канцы цэха. У зале той невялікая сцэна, на сцэне піяніна. А перад сцэнай — крэслы, крэслы, крэслы... Уселіся дзеці, уселіся іх мамы.

На сцэну паднялася Тараскава мама, загаварыла:

— Дарагія нашы дзеці! Мы вельмі рады, што вы сёння прыйшлі да нас у госці. Ад імя ўсіх ткачых я віншую дзяўчынак вашага класа і вашу настаўніцу Вольгу Пятроўну з Міжнародным жаночым днём!

Потым Вольга Пятроўна павіншавала ткачых ад імя вучняў. А пасля кожны падыходзіў і ўручаў падарунак-віншаванне. Хто — прыгожую паштоўку, хто — малюнак, хто — вышытую насовачку... Тараска разгарнуў свой пакуначак, нешта круціў, чырванеў, хваляваўся... І раптам адняў рукі.

Над залай узняўся маленькі чырвоны верталёцік. Ён шыбаваў у той куточак ля сцэны, дзе сядзела Тараскава мама. Знізу вісела паперка.

Усе здзіўлена пазіралі на Тараскаў падарунак. А верталёт падлятаў ужо да мамы, і Тараска выгукнуў:

— Лаві, мамачка! Гэта я табе...

Мама схапіла той верталёцік, як ловяць голуба. І ён, як голуб, усё яшчэ трапятаўся ў маміных руках.

Потым супакоіўся, бо раскруцілася ўся гумка. Мама ўзяла паперачку. Прачытала ўважліва і сказала:

— Ведаеце, што ён тут напісаў: «Дарагая мамачка! Са святам цябе! Жыві доўга і заўсёды будзь здаровая, вясёлая, прыгожая. І не пазніся больш дамоў!»

Прачытала і засмяялася. Засмяяліся ўсе, запляскалі ў далоні. Пачырванела мама. Гарэў ад хвалявання і Тараска. Тады загаварыла адна ткачыха. Самая старэйшая, відаць, бо ў яе сівыя валасы з-пад чырвонай касынкі выбіваюцца.

— Ты, Тараска, павінен даравац́ь сваёй маме, што яна, бывае, позніцца дамоў, — гаварыла ткачыха. — Мы вось старэем, хутка пойдзем на адпачынак, і нам трэба рыхтаваць змену. Каб прыйшлі да станкоў маладыя, дужыя, спрытныя рукі. Вось твая, Тараска, мама і ўзялася вучыць новенькіх ткачых. Яна кіруе школай маладых.

Тараска падняў руку:

— А можна мне ў мамінай школе вучыцца? — запытаўся.

— Табе спадабалася ў нас? — адказала пытаннем на Тараскава пытанне ўсё тая ж ткачыха. — Гэта добра. Вось падрасцеш, скончыш школу і прыйдзеш сюды. Толькі, мусіць, не ткачом, а наладчыкам. Каб станок добра працаваў, трэба яго наладжваць і даглядаць. Сапсуецца што, трэба ўмець і падрамантаваць. Усё гэта робяць наладчыкі. Але станкі цяпер вельмі складаныя. Каб разабрацца ў іх, трэба добра і шмат вучыцца. На заводах і фабрыках цяпер патрэбны толькі ву́чаныя людзі. Невукам ходу няма. Вось

мы і жадаем вам, і дзяўчынкам, і хлопчыкам, багата выдатных адзнак!

Зноў грымелі воплескі.

Выйшлі ўсім класам на сцэну і праспявалі «Песню пра сустрэчнага». Тамара і Таня расказвалі вершы. Зноў спявалі.

Дзеці развітваліся. Відаць было, што ім не хацелася пакідаць сваіх мам. Але цэх пачынаў ужо шумець. Потым загудзеў, загрымеў. Стала больш светла. Мамы станавіліся да станкоў.



***Сувóй*** — цэлы кусок палатна, скручаны ў трубку.
***Шпýлька*** — драўляны стрыжань з кольцамі на канцах, на які намотваюцца ніткі.



1. Пра якую школу гаворыцца ў апавяданні?
2. Што ўбачылі дзеці на камбінаце?
3. Які падарунак зрабіў Тараска маме? Прачытайце.
4. Чаму хваляваўся хлопчык?
5. Як паводзіла сябе маці?
6. Што сказала дзецям старэйшая з ткачых?
7. Чаму дзеці не хацелі пакідаць сваіх мам?
8. Дайце кожнай частцы загаловак. Перакажыце адну частку тэксту ці ўвесь твор (па жаданні).
9. Кім вы хочаце быць, калі станеце дарослымі?

## Скорагаворка

Тчэ руплівая ткачыха тканіны. *(В. Жуковіч)*

# Свята

*Юрась Свірка*



Сёння ў нашай мамы свята,
Падарыў ёй кветкі тата.
Пажадаў ён любай маме
Быць заўсёды самай-самай,
І прыгожай, і шчаслівай,
І вясёлай, і руплівай.
Аж свяціцца мама наша:
Атрымаў дзясятку Саша,
Пастараўся наш Панаска —
Ён нацёр паркет да бляску.
Пахваліла мама Аду —
У пакоях скрозь парадак.
Тата сам гатуе стравы,
Ён старанны і рухавы.
Прыхінае мама кветкі.
— Дзякуй, бацька! Дзякуй, дзеткі!
Незабыўная нядзеля,
Мама як памаладзела.
І з усмешкай кажа тата:
— Падарылі мы ёй свята.



1. Пра якое свята гаворыцца ў вершы? Як дакладна яно называецца?
2. Якія падарункі атрымала мама?
3. Якое пажаданне выказаў маме тата? Прачытайце.
4. Як паставілася да падарункаў мама? У якіх радках верша пра гэта сказана?
5. Як вы рыхтуецеся да мамінага свята?
6. Складзіце святочнае віншаванне сваёй маме, бабулі.

# Вясенняя раніца

*Міхась Чарот*

Гляньце, дзеткі, у аконца,
Ды пара ужо ўставаць...
Як прыгожа там бясконца!
Сорам, дзеткі, позна спаць.

Заглянула сонца ў вочкі,
Дзень прыйшоў — даволі сну!
На свет гляньце, галубочкі,
Ўсе вітаюць там вясну.

Пчолкі выпаўзлі з калоды,
Пачалі збіраць мядок.
Шпак вартуе агароды
І вішнёвы наш садок.

Зелянее траўка ў полі,
Ў небе птушачкі пяюць...
Эх, зімы не будзе болей!
Хутка кветкі зацвітуць.



1. Якія пачуцці выклікаў у вас верш?
2. Хто і як вітае вясну?
3. Якія вясновыя прыкметы вы назіралі ў прыродзе? Параўнайце іх з тымі, пра якія гаворыцца ў вершы.

4. Растлумачце выразы *«заглянула сонца ў вочкі»*, *«шпак вартуе агароды»*.
5. Што агульнага ў вершах Якуба Коласа «Вясна на Палессі» і Міхася Чарота «Вясенняя раніца»?
6. Вывучыце верш на памяць.

## Жаўрук

*Уладзімір Ягоўдзік*

Жаўрукі — найпершыя пасланцы вясны. На Беларусь яны вяртаюцца з выраю ў сярэдзіне сакавіка. Сонца яшчэ не паспела злізаць снег. Раніцою і ўвечары кусаецца мароз. А жаўрукі ўжо пяюць, звіняць над полем і лесам, над вёскамі і гарадамі, вітаюць прыход вясны.

Іх у дружнай жаўруковай сямейцы — чатыры родныя браты.

Палявы.

Лясны.

Чубаты.

Рагаты.

Не бойцеся, у апошняга з братоў зусім не страшныя рожкі. Проста ў яго на галоўцы тырчаць пярынкі. Імі не надта напалохаеш драпежнага ястраба. Але жаўручок, як расказваюць старыя людзі, паднімаецца з саломінкаю ў неба і спявае:

«Пайду ястраба біць! Пайду ястраба біць!..»

Ды вось бяда — саломінка выпадае, і жаўрук каменем ляціць да зямлі. А па дарозе апраўдваецца:

«Кій упаў! Кій упаў!..»

Вельмі цікавае паданне і пра тое, як з’явіліся на нашай зямлі жаўрукі.

Неяк увесну, даўным-даўно, вандраваў па Беларусі добры чараўнік. Здарожыўся ён. І есці не меў чаго. Ажно бачыць — арэ непадалёку палетак селянін. Зямля пясчаная, а сям-там камяністая. Конік ледзь цягне драўляную саху. А ў самога гаспадара кашуля на спіне — хоць выкручвай ад салёнага поту. Прывітаўся чараўнік з хлебаробам. Слова за слова — разгаварыліся. Потым араты запрасіў падарожніка папалуднаваць. Хоць які там полудзень. Акраец чэрствага хлеба, некалькі горкіх цыбулін ды крынічнай вады збанок.

Але нездарма людзі кажуць: не дораг абед, а дораг прывет. Падсілкаваўся трошкі падарожнік-чарадзей, пачаў распытваць у аратага пра ягонае жыццё-быццё, якую ён хацеў бы мець палёгку.

«Ніякай мне не трэба палёгкі, — адказаў яму селянін. — Толькі слухаць абрыдла, як грукае каменне аб саху...»

Добры чараўнік счакаў, пакуль адыдзецца, налягаючы на саху, хлебароб, потым узяў у рукі маленькі камень і штосілы шпурнуў яго ў неба. І толькі ён тое зрабіў — зашчабятала, зазвінела ў паднябессі шэрая птушка. Весялей пацягнуў саху знясілены конь, упершыню за цэлы дзень усміхнуўся араты...

А жаўрукі з таго часу гняздзяцца проста на зямлі, у траве, часцей за ўсё на ўзмежку поля з хмызняком. Іхніх птушанят цяжка заўважыць, бо колерам сваіх пярынак яны падобныя да шэрых каменьчыкаў.



Цяжка жаўрукам несці на малых крылах званочкі вясны. Але можна дапамагчы ім. Трэба папрасіць маму, каб яна напякла з цеста чубаценькіх птушак. Потым нядзелькаю выйсці на вуліцу, як мага вышэй падкідваць іх угору над сабою і спяваць:

Жаваронačкі, прыляціце,
Цёпла лецейка прынясіце!
Бо зімачка надаела,
Усе хлебушкі пераела!

Паспрабуй, мой маленькі сябар. І ты абавязкова, хоць на адну хвіліну, наблізіш прыход вясны на родную зямлю.

***Здаро́жыцца*** — стаміцца, змучыцца ў дарозе.

?
1. Пра якіх пасланцоў вясны расказваецца ў творы?
2. Колькі ў жаўруковай сямейцы братоў? Чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго? Прачытайце.

3. Як з’явіліся на нашай зямлі жаўрукі? Прачытайце паданне.
4. Дзе і калі вы бачылі і чулі гэту птушку? Раскажыце, што вам пра яе вядома.
5. Якімі словамі з тэксту можна падпісаць малюнак?
6. Прачытайце яшчэ раз паданне і перакажыце яго блізка да тэксту.

## Прыказка

✦ Жаваранак прылятае на праталіну, шпак — на прагаліну, жораў — з цяплом, а ластаўка — з лістом.

## Першы гром

*Якуб Колас*

Голасам моцы, ціха і важна
Гром пракаціўся ўгары.
Луг адазваўся грому працяжна,
Лес адгукнуўся стары.

Гай страсянуўся, дрогнула поле,
Долы той гук паняслі.
У гэтым раскаце чуецца воля,
Чуецца радасць зямлі.

У грукаце гэтым многа ёсць сілы,
Чуецца моц і прастор...
Першыя громы! Сэрцу вы мілы,
Люб мне ваш смех паміж гор!

?

1. Якое ўражанне зрабіла на вас апісанне першага грому?
2. Якія малюнкі паслядоўна ўзнікаюць у вашым уяўленні, калі вы чытаеце радкі верша?
3. Патлумачце выразы *«гром пракаціўся», «луг адазваўся грому», «чуецца радасць зямлі», «чуецца моц і прастор».*
4. Якія яшчэ словы і выразы дапамагаюць паэту намаляваць вобраз грому?

## Салодкі кляновік

*Янка Галубовіч*

Зіма была цяжкая. Увесь час стаялі вялікія маразы. Але вясна прыйшла нечакана і такая цёплая, што ўжо ў самым пачатку красавіка нават у лесе цяжка было натрапіць на лапіну снегу. Аднойчы дзядзька Ігнась, калі наступілі выхадныя дні, сказаў мне: «Давай сходзім у лес, на Лысую гару. Паглядзім, як перазімавалі мурашкі». Я ведаў, што на Лысай гары ні многа ні мала — пятнаццаць мурашнікаў. І ўсе яны дагледжаны рупным і добрым да ўсяго жывога на зямлі чалавекам. Чалавек гэты — стары ляснік-пенсіянер дзядзька Ігнась. Ён не толькі абгарадзіў усе мурашнікі, але і старанна пафарбаваў у блакітны колер кожную абгародку.

Лес сустрэў нас дзіўнай прыгажосцю. Распусціліся каташкí арэшніку і выкінулі з сябе воблачкі залаціста-жоўтага пылку. Вось-вось распусцяцца набухлыя пупышкі ў асіны, бярозы і таполі. Прыбралася ў чыр-

вона-карычневыя завушніцы вольха, каля рэчкі скінула цёмныя лускавінкі ракіта.

Пачулі цяпло, ажылі на Лысай гары і мурашнікі. Самыя смелыя з мурашак ужо цягнулі ў норкі мушак і жучкоў, а другія, пакінуўшы сваю здабычу дома, зноў спяшаліся на паляванне.

— Ого, мурашкі! — гаворыць дзядзька Ігнась. — Гэта вялікія памочнікі лесу! Толькі за адзін год сям’я мурашак знішчае каля дзесяці мільёнаў розных шкоднікаў.

Самы вялікі мурашнік на Лысай гары ля маладога, але высокага і стройнага клёна. Мурашнік гэты таксама абнесены абгародкай, пафарбаванай у блакітны колер. Але што гэта такое? Па клёне ўверх у адным напрамку роўненькім ланцужком адна за адной паўзуць мурашкі. Другія мурашкі такім жа роўненькім ланцужком спускаюцца з дрэва.

— Вось яно што! Салодкі кляновік! — смяецца дзядзька Ігнась і гаворыць мне: — Бачыш зламаную галінку ля самага ствала?



— Ага, бачу.

— У тым месцы, дзе зламана галінка, выступаюць кропелькі соку. Вось і спяшаюцца туды мурашкі, каб паласавацца ім, вясну сустрэць...

Вечарам вярталіся дамоў. Удалечы ціха прагрымеў гром. Збіралася на дождж. Дзядзька Ігнась зноў прыпыніўся ля аднаго мурашніка, нагнуўся.

— Бачыш, ні адной мурашкі ля мурашніка. Дождж чуюць, вось і пахаваліся ў сваіх норках. Мурашкі — жывы барометр прыроды.

Я падышоў да клёна, уважліва агледзеў ствол дрэва, але ні адной мурашкі не ўбачыў.

Калі з дзядзькам Ігнасём выйшлі з лесу, сцебануў моцны дождж.



***Ракі́та*** — дрэва або вялікі куст сямейства вярбовых.



1. Пра які жывы барометр прыроды гаворыцца ў творы?
2. Ад чыйго імя ідзе гаворка ў апавяданні? Зачытайце, што аўтар гаворыць пра дзядзьку Ігнася?
3. Знайдзіце ў тэксце апісанне таго, як выглядае лес вясной. Прачытайце.
4. Куды паўзлі мурашкі? Як пра гэта расказвае аўтар?
5. Чаму вечарам мурашкі пахаваліся?
6. Прачытайце твор самастойна. Уявіце, што паводле тэксту вам трэба стварыць дыяфільм. Якія кадры вы да яго падабралі б?

## Раніца ў лесе

*Паўлюк Пранузa*



А ці быў ты ў лесе рана?
Чуў ты лесу галасы?
Ветрам ён расхваляваны,
Звоніць кроплямі расы.

Вось і птушка заспявала
У зялёным гушчары —
Самы смелы запявала —
Як прадвесніца зары.

А за ёю і другая,
За другою — цэлы хор,
Дрэва кожнае спявае,
Весяліцца ранкам бор.

Колькі песень, шуму, свісту:
Птушкі тут гаспадары.
А якія цымбалісты,
А якія песняры!

?

1. Аб якіх прыкметах ранку ў лесе гаворыцца ў вершы?
2. Якія словы і выразы ўжывае паэт, каб паказаць абуджэнне лесу? Прачытайце.
3. Якімі словамі з тэксту можна падпісаць малюнак?

### Загадка

Да яліны, да сасны
Доктар прыляцеў лясны.
Палячыў сасну, яліну
І высокі бор пакінуў.

# Дзятлава хвароба

*Змітро Бяспалы*

1

У канцы красавіка, калі на дрэвах не вырас яшчэ ніводзін лісцік, а з зямлі не выбілася яшчэ ні адна травінка, старыя дзятлы пачалі будаваць сабе дом у сухой асіне пад сучком.

Увесь іх інструмент — вострая дзюба.

Выдзеўблі дзятлы ў дрэве дупло.

Калі яны свой дом будавалі, трэскі выкідвалі. Падалі тыя на дол ля дрэва. Па гэтых свежых трэсках лёгка здагадацца, дзе дзятлы пасяліліся. Нездарма ж кажуць: «Хто б дзятла ведаў, каб не яго нос».

На дрэвах вырасла лісце, на зямлі — трава.

У гэты час у дзятлавай хаце вывеліся маладыя дзятляняты. Ды такія крыклівыя, што хоць вушы затыкай. Крычаць і крычаць — усё есці просяць.

Сваім крыкам малыя дзятляняты выдаюць свой дом. Але яны не баяцца, што які-небудзь драпежнік нападзе на іх. Ён іх не дастане. Дзятлы ў дупле як за драўлянай сцяною.

Растуць дзятляняты. Чым большыя становяцца, тым болей крычаць: есці патрабуюць.

Старыя дзятлы з ранку да вечара стукаюць па дрэвах, шукаюць-збіраюць караедаў і шашаляў, носяць сваім дзецям.

## 2

Нарэшце выраслі дзятляняты. Пакінулі дупло і па прыкладзе сваіх бацькоў самі пачалі здабываць сабе ежу. Толькі адзін малады дзяцел не пакінуў дупло. Сядзіць у ім і крычыць — есці просіць.

Разгубіўся стары дзяцел. Не ведае, што і рабіць, кажа маладому:

— Вылятай з дупла...

Высунуў малады дзяцел дзюбу з дупла і адказвае:

— У мяне крылы малыя, слабыя, я лятаць не ўмею.

— А ты вылазь, смялей, я навучу цябе лятаць, — гаворыць стары дзяцел. — Седзячы ў дупле, не навучышся.

Малады дзяцел як пачуў гэта, дык і дзюбу схаваў.

«Вось пабудзеш галодны, дык сам вылезеш», — парашыў стары дзяцел і паляцеў.

Пакрычаў малады дзяцел, пакрычаў і, убачыўшы, што ніхто яму есці не нясе, вылез з дупла, зачапіўся за кару і вісіць.

Прыляцеў стары дзяцел і гаворыць:

— Паляцім са мною, недалёка тут я знайшоў сухую бярозу з белымі шашалямі.

— Не магу, — пішчыць малады, — упаду на зямлю, і мяне ліс схопіць.

## 3

Сяк-так навучылі старыя дзятлы маладога лятаць і паказалі, як здабываць ежу. Малады паглядзеў і кажа:

— Не магу я дзяўбаць кару, у мяне дзюба слабая, баюся, каб не зламалася.

Стары дзяцел падляцеў і яшчэ раз паказаў:

— Вось так: стук-стук — і ежа на языку.

Глынуў малады сліну і кажа:

— Не магу я стукаць па дрэве, калі стукаю, у мяне галава баліць.

Тады стары дзяцел адарваў шышку, уладкаваў яе ў шчыліну:

— Вось так лёгенька: тук-тук, стук-стук — і зярнятка ў роце.

— А мая галава і ад такога стуку баліць, ажно раскolваецца.

Накармілі яшчэ раз старыя дзятлы маладога, пахаваліся за ствaламі дрэў і пачалі назіраць, што ж той будзе рабіць.

Малады дзяцел пачакаў трохі, а потым як закрычыць: маўляў, есці нясіце.

Старыя дзятлы не адказваюць, а чакаюць, што ж далей будзе.

Раззлаваўся малады дзяцел, што ніхто яму есці не дае, закрычаў, а потым са злосці па дрэве дзюбаю як стукне.

Не зламалася дзятлава дзюба, і галава не разбалелася. Стукнуў малады дзяцел яшчэ раз па сухой галінцы, павярнуў галаву направа, налева, паглядзеў, ці не нясуць яму бацькі есці.

Не, ніхто яму нічога не нясе.

Пачаў дзяцел стукаць па галіне, а тут з-пад кары выбег жучок. Схапіў яго дзяцел і з’еў. Яшчэ пасту-

каў — зноў падсілкаваўся. Чым болей стукаў, тым болей наядаўся і ўжо не крычаў, каб яго кармілі.

Малады дзяцел і не заўважыў, як прайшла яго хвароба.

Не верыце? Тады схадзіце ў лес. Там вы ўбачыце на дрэве стракатага дзятла. Учапіўшыся лапкамі за кару, ён сядзіць на хвасце і стукае па дрэве: і сам корміцца, і адначасова лечыць дрэва, знішчае лясных шкоднікаў.



***Ша́шаль*** — насякомае атрада жукоў, лічынкі якога точаць дрэва.



1. Пра якую хваробу расказвае Змітро Бяспалы?
2. Як бацькі навучылі маладога дзятла здабываць ежу?
3. Ахарактарызуйце маладога дзятла.
4. Чаму ў народзе кажуць *«Хто б дзятла ведаў, каб не яго нос»*? Якія загадкі, прыказкі пра дзятла вы яшчэ ведаеце?
5. Прачытайце па ролях размову бацькі з маладым дзятлам.
6. Складзіце план апавядання. Перакажыце тэкст па плане.

## Скорагаворка

Дзятлы дзюбамі дзяўблі дрэва.

## Загадка

Дзіўны лекар так старанна
Дзюбай лечыць веліканаў.

## Кветкамі сады асыпаў май

*Станіслаў Шушкевіч*



Кветкамі сады асыпаў май
І напоўніў іх пчаліным гулам.
Закувай, зязюля, закувай,
Каб зямля вясну сваю адчула.

Вокны насцеж раскрывае дом,
Дрэвы ў рэчку хочуць наглядзецца
І сабраліся на досвітку гуртом,
Каб на сонцы раніцай пагрэцца.

?

1. Якія малюнкі вы ўявілі падчас чытання верша?
2. Як вы растлумачыце загаловак верша?
3. Што адбываецца ў прыродзе, калі надыходзіць май?
4. Прачытайце верш выразна.

### Народныя прыкметы

✦ Калі восенню снег выпадае, вясна будзе ранняя.

✦ Туман у лістападзе — позняя вясна.

✦ Раннія халады ў лістападзе — да ранняй вясны.

✦ Гракі і галкі ляцяць на старыя гнёзды і пачынаюць іх хутка рамантаваць — вясна будзе дружная, цёплая.

✦ Гусі высока ляцяць з выраю — вады ўвесну будзе шмат, нізка ляцяць — мала.

✦ Ранні вылет пчол — ранняя і цёплая вясна.

✦ Увосень лістота на бярозах пачынае жаўцець з вяршалін — вясна ранняя, знізу — позняя.

# Хатынь

*Сяргей Аляксееў*

Салдат Жалабковіч ішоў разам з усімі. Па беларускай зямлі, у родным сваім краі. Усё бліжэй і бліжэй да роднага дома. Вёска ягоная — Хатынь.

Ідзе салдат, сябрам баявым гаворыць:

— Не ведаеш Хатыні? Дзіва лясное Хатынь, браток!

І пачынае салдат расказваць. Вёска стаіць сярод лесу, на ўзгорку. Лес тут расступіўся, даў сонцу волю. Трыццаць дамоў у Хатыні. Разбегліся дамы па палянках. Калодзежы ў зямлю нырнулі. Дарога схавалася ў ельніку. І там, дзе дарога падбегла, прытулілася да лесу, дзе яліны вершалінамі неба падперлі, на самым узгорку, на краі Хатыні ён і жыве — Іван Жалабковіч.

І насупраць жыве Жалабковіч. І злева Жалабковіч жыве. І справа. Іх, Жалабковічаў, у гэтай Хатыні, як гаворыцца, хоць адбаўляй.

Ішоў салдат да сваёй Хатыні.

Дом успамінаў. Тых, хто дома застаўся. Жонка засталася. Маці старая і трохгадовая дачушка Марынка. Ідзе салдат, Марынцы нясе падарунак — стужку ў касу, чырвоную, як агонь.

Хутка ідзе войска. Хутка ўгледзіць салдат старую маці. Абдыме маці. Скажа салдат:

— Прыйшоў!

Хутка ўгледзіць салдат жонку. Пацалуе жонку салдат і скажа:

— Прыйшоў!

На рукі Марынку возьме. Падкіне салдат Марынку. Скажа і ёй:

— Прыйшоў!

Вось дастане салдат падарунак:

— На, трымай, Марынка!

Ішоў салдат да сваёй Хатыні. Пра сяброў, пра суседзяў думаў. Хутка ўсіх угледзіць Жалабковічаў. Сустрэне Яцкевічаў, Рудакоў, Мірановічаў. Усміхнецца салдат Хатыні. Скажа салдат:

— Прыйшоў!

Выйшлі яны да Хатыні. Побач зусім, кіламетр да тых мясцін.

Салдат да камандзіра. Маўляў, вёска побач. Вось тут лагчына, за лагчынай лясок. Прамінуў лясок, і вось Хатынь. Паслухаў ротны.

— Ну што ж, — сказаў, — ідзі.

Ідзе салдат да Хатыні. Вось і лагчынка. Вось і лясок. Вось зараз і хаты пакажуцца. Зараз маці ўгледзіць. Зараз жонку абдыме. Марынцы аддасць падарунак. Падкіне Марынку да самага сонца.

Прамінуў лясок. Выйшаў да паляны. Выйшаў — і замёр. Глядзіць, не верыць — няма на сваім месцы Хатыні. Толькі коміны тырчаць на пажарышчы.

Спыніўся салдат, закрычаў:

— Дзе людзі?! Дзе людзі?!

Загінулі ў Хатыні людзі. Дарослыя, дзеці, старыя — усе.

Прыйшлі былі сюды фашысты.

— Партызаны! — крычаць. — Лясныя бандыты!

У гумно сагналі фашысты людзей. Спалілі людзей у гумне. Падбег салдат да роднага дома. Упаў на попел. Заплакаў, застагнаў салдат. Выпаў, адляцеў убок падарунак. Затрымцела на ветры стужка. Як чырвонае полымя, узвілася над зямлёю. Хатынь не адна. На беларускай зямлі фашысты многа спалілі вёсак, многа было Хатыняў.

?

1. Калі адбываліся падзеі, пра якія апавядаецца ў творы?
2. Пра што расказваў салдат сваім баявым сябрам?
3. Чаму сказ *«Прыйшоў!»* паўтараецца ў творы некалькі разоў? Які сэнс уклаў у яго аўтар?
4. Што салдат убачыў на месцы роднай вёскі?
5. Як загінулі людзі ў Хатыні? Раскажыце.
6. Хто з вас наведаў мемарыяльны комплекс «Хатынь»? Раскажыце аб сваіх уражаннях.

## Прынясіце кветкі салдатам

*Леанід Дайнека*

Адгулі, адгрымелі гарматы.
Хмары чорныя адплылі.
Прынясіце кветкі салдатам,
Што палеглі на нашай зямлі.

Пакланіцеся нізка-нізка
Тым, хто зведаў агонь і дым,
Строгім помнікам, абеліскам,
Слаўным зорачкам баявым.

Ля салдацкіх магіл памаўчыце...
Кожны з мужных салдат збярог
Цішыню, і сонца ў блакіце,
І сцяжынку на школьны парог.



?

1. Якія пачуцці ўзніклі ў вас пры чытанні верша? Чаму?
2. Да каго звяртаецца аўтар? Да чаго заклікае ён у вершы?
3. Раскажыце, як вы ўшаноўваеце памяць абаронцаў нашай Радзімы.
4. Вывучыце верш на памяць.

# Вясна прыйшла

Разгледзьце малюнак. Як па-іншаму можна яго назваць? Складзіце апавяданне па малюнку.



Словы і выразы для выкарыстання: наступіла вясна, узялі рыдлёўкі, зграбаюць лісце, беляць дрэвы, абкопваюць садовыя дрэўцы, дружная работа.

## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ

**1.** Назавіце аўтараў твораў.

*1 варыянт*

«Вясёлы ручаёк»
«Свята»
«Дзятлава хвароба»

*2 варыянт*

«Явар і каліна»
«Вясна»
«Буслы»

**2.** З якіх апавяданняў узяты ўрыўкі?

а) «Вада падыходзіла да саменькага агарода, а вясны не было. Холадна...»;

б) «Аднойчы дзядзька Ігнась, калі наступілі выхадныя дні, сказаў мне: “Давай сходзім у лес, на Лысую гару. Паглядзім, як перазімавалі мурашкі”»;

в) «Мікітка, стоячы на беразе, вельмі старанна рэгуляваў рух крыг. Як толькі спыніцца якая ў завадзі, ён зараз жа і выганіць яе адсюль кіем»;

г) «Тараскава мама — ткачыха. Прыходзіць дамоў, калі Тараска ўжо кладзецца спаць».

**3.** Па апорных словах успомніце назву твора.

а) Палявы, лясны, чубаты, рагаты;

б) Хлопчыкі-аднакласнікі, Косця, Алесь, Рыгорка, Вова, бабуля, кладка;

в) Дзеткі, аконца, сорам, сонца, шпак, садок, вартуе, траўка, птушачкі, зацвітуць.

**4.** Адгадайце загадкі і назавіце апавяданні, у якіх ёсць такія героі.

З выраю першы вяртаецца,
З песняй да свету звяртаецца,
Поля і неба сябрук —
Гэта, вядома, ... .

Кавалёк жыве ў бары.
Працаваць пачне — замры.
Ён ад ранку да цянёчку
Б'е-ляскоча малаточкам.

**5.** Разгледзьце малюнкі. Да якіх твораў яны адносяцца?











# СЛАВА ТРАВАМ, СЛАВА КВЕТКАМ, СЛАВА ЛЕТНІМ ЯРКІМ ДНЯМ...



## Летні дзень

*Пятро Глебка*

За драўлянымі млынамі,
Дзе канчаюцца масты,
Шырачэзнымі лістамі
Ахінуліся кусты.

Ад крутых віроў глыбокіх
На пясчаны перакат
Прамяністая ад спёкі
Выгінаецца рака.

Луг заліўся галасамі:
Да яго ва ўсе канцы
Выйшлі стройнымі радамі
Загарэлыя касцы.

Слава травам, слава кветкам,
Слава летнім яркім дням,
І засеяным палеткам,
І пакошаным лугам!

***Перака́т*** — мелкаводны ўчастак ракі.

? 1. Якім вы ўяўляеце летні дзень?
2. Што ўслаўляе паэт у вершы?
3. Як вы разумееце радкі: *«шырачэзнымі лістам ахінуліся кусты»*, *«прамяністая ад спёкі выгінаецца рака»*?
4. Якія радкі верша адлюстроўваюць прыгажосць летняй прыроды?
5. Прачытайце верш выразна.

## Загадка

Як ідзе — і шастом галавы не дастаць,
А ўпадзе — з травы-муравы не ўзяць.

## Міколкаў барометр

*Мікола Корзун*

Дзеці гулялі на двары, калі ў варотах паказаўся Міколка — высокі чорнагаловы хлопчык з першага паверха.

— Гэй, сюды! — звонка крыкнуў ён.

Усе кінуліся да яго, бо ведалі, што Міколка заўсёды прыдумае новую гульню або раскажа што-небудзь цікавае.

— Хочаце скажу, якое сёння будзе надвор'е пасля абеду.

— Э-э-э, — расчаравана працягнуў Валодзя, — мы думалі, ты якую навіну прынёс...

— Пра надвор'е мы і без цябе можам даведацца, — дадаў Стась.

— Ну, скажы, калі ты ўсё ведаеш!

— Калі ласка. Пайду пагляджу ў дзядзькі Пятра на барометр і ўсё. А то знайшоўся чараўнік!

— Гэты чараўнік, мабыць, толькі што слухаў па радыё зводку, — падліла масла ў агонь Наташа.

Усе зноў засмяяліся.

Міколка цярпліва пачакаў, пакуль дзеці супакояцца. Потым сказаў:

— Эх вы, перасмешнікі. Ніякага радыё я не слухаў і на барометр не глядзеў. Я з парку іду. Але я ведаю нештачка такое, што перад дажджом абавязкова плача. Вы яго таксама, напэўна, бачылі не раз і нават не здагадваліся, што гэта прадказальнік надвор'я.

Усе прыціхлі, недаверліва паглядаючы на Міколку. А ён усміхнуўся і дадаў:

— Дык вось, не забудзьце падрыхтаваць парасоны. Сягоння пасля абеду будзе дождж. І не маленькі, а такі, што сапраўдныя рэкі пабягуць па вуліцы.

І пайшоў дадому.

А мы ўсе яшчэ доўга стаялі на двары і ўзіраліся ў неба. Яно было чыстае-чыстае, без ніводнага воблачка.

Аднак перад абедам на небе сапраўды сталі з'яўляцца хмаркі. Спачатку яны нагадвалі баранчыкаў, хмаркі хутка раслі, павялічваліся... Недзе глуха і працяжна загрымеў гром. Велізарная чорная хмара закрыла паўнеба. Зрабілася цёмна і ціха-ціха. Наляцеў моцны вецер. Закружыў і падняў слупам у неба пыл і шматкі паперы.

Асляпіла вочы маланка. Грымнуў гром, ад якога ажно зазвінелі шыбы. Усе дзеці з двара кінуліся ў калідор. Упалі першыя буйныя кроплі, забарабанілі па даху. А потым як лінуў дождж!.. Здавалася, хтосьці на небе пераварочваў вялізныя бочкі з вадой адну за другой.

Адчыніліся дзверы, і на калідор выйшаў Міколка. Дзеці абступілі яго і наперабой пачалі прасіць:

— Пакажы нам тое, што перад дажджом плача.

Міколка пакруціў галавой:

— Як жа я вам яго пакажу? Зараз усё плача...

— Ну дык хоць скажы, што гэта? — дапытваліся хлопцы.

— Можа, кветка?

— Не.

— Птушка?

— Не.

— Жаба, жаба! — мацней за ўсіх закрычала Наташа. — Я чула, што калі заб'еш жабу, дык пойдзе дождж. Наш Міколка таксама, мабыць, забіў сёння самую вялікую жабу...

Міколка пакрыўдзіўся:

— Я не такі, каб забіваць жаб. Я ведаю, што яны карысныя.

Дзеці пачалі прыставаць да яго: пакажы ды пакажы свой барометр. Міколка махнуў рукой.

— Добра, пакажу. Толькі заўтра, бо ў дождж усё роўна нічога нельга ўбачыць.

Назаўтра Міколка павёў усіх у гарадскі парк. Там сярод іншых дрэў было адно, якое здалёк нагадвала

стог сена. Тонкія і доўгія галінкі яго звісалі да самай зямлі.

Лісцікі на дрэве вузенькія, прадаўгаватыя, з аднаго боку зялёненькія і гладкія, як шкло, а з другога — шэранькія, аксамітавыя. І хоць пасля ўчарашняга дажджу ўсё даўно ўжо высахла і ярка свяціла сонца, на кожным лісціку блішчала па дзве-тры кропелькі.

— Гэта і ёсць мой барометр, — паказаў Міколка на дрэва. — Бачыце, плача. Значыць, і сёння будзе дождж.

— Якое цікавае дрэва!

— Міколка, а як ты даведаўся пра яго?

— Вельмі проста. Я часта прыходжу ў парк чытаць. Неяк раз было надта горача, і я схаваўся пад гэтае дрэва ў цянёк. І тут раптам на мяне пачалі падаць халодныя кропелькі, хоць неба было зусім чыстае. А праз некалькі гадзін пайшоў дождж. З таго часу я пачаў назіраць за дрэвам і прыкмеціў, што калі яно заплача, дык неўзабаве абавязкова пойдзе дождж.

Потым я даведаўся, што гэта ніцая вярба.


***Аксамі́т*** — шаўковая тканіна з мяккім, гладкім і густым ворсам.

***Баро́метр*** — прыбор для вымярэння атмасфернага ціску.

***Ні́цы*** — пра дрэвы, кусты: з доўгімі звісаючымі галінамі.




1. Пра якую прыкмету расказваецца ў творы?
2. Назавіце яшчэ якія-небудзь з'явы, прыкметы, якія прадказваюць надвор'е.

3. Выберыце з апавядання ўрывак-апісанне. Дайце яму загаловак сказам з твора.
4. Падзяліце тэкст на сэнсавыя часткі згодна з планам:
   - Міколка прадказвае дождж.
   - Навальніца.
   - Прадказальнік надвор'я.
5. Перакажыце адну з частак (на выбар).

## Летам

*Янка Журба*

Ласкава зірнула
Зранку ў хату сонца
І заззяла ясным
Бляскам на аконцы.

У зялёны гай мы
Пойдзем сёння, дзеткі:
Ягады ўжо ёсць там
І красуюць кветкі.

Там, паміж кустамі,
Знойдзем мы суніцы,
У лесе нас чакаюць
Спелыя чарніцы.

Там іскрыцца срэбрам
Рэчка на прасторы.
Запяём мы ў гаі
Песню дружным хорам.

Будуць пець вясёла
Разам з намі птушкі;
З намі загамоняць
Павучкі і мушкі.



1. Якія малюнкі вы ўявілі, чытаючы верш? Раскажыце.
2. Якімі словамі паэт перадаў прыгажосць гэтай пары года? Прачытайце.
3. Чым падобныя вершы Пятра Глебкі «Летні дзень» і Янкі Журбы «Летам»?

## Паверхі лесу

*Міхаіл Прышвін*

У птушак і звяркоў у лесе ёсць свае паверхі. Мышы жывуць у карэнні — у самым нізе. Розныя птушачкі, як салавей, уюць свае гняздзечкі проста на зямлі. Дразды — крыху вышэй, між галін кустоў. Дупляныя птушкі — дзяцел, сінічкі, совы — яшчэ вышэй. На рознай вышыні па ствале дрэва селяцца драпежнікі: ястрабы і арлы.

Мне давялося неяк раз назіраць у лесе, што ў іх, звяркоў і птушак, з паверхамі іначай, як у людзей у небаскробах. У нас заўсёды можна з кім-небудзь памяняцца. А ў іх кожная парода жыве абавязкова на сваім паверсе.

Аднаго разу на паляванні мы выйшлі на палянку з бярозамі, якія загінулі. Гэта часта бывае, што бярозы дарастуць да пэўнага ўзросту і засохнуць.

Іншае дрэва, засохнуўшы, скідае на зямлю кару. І ад таго непакрытая драўніна хутка гніе і ўсё дрэва

валіцца. У бярозы ж кара не адпадае. Гэта смалістая, звонку белая кара — бяроста — бывае непранікальным футаралам. І памерлае дрэва доўга стаіць нібы жывое.

Нават калі ўжо дрэва згніе, з выгляду белая бяроза стаіць, як жывая. Але варта, аднак, добра штурхануць такое дрэва, як раптам усё яно разломіцца на цяжкія кавалкі і ўпадзе. Валіць такія дрэвы — занятак вясёлы, але і небяспечны. Калі своечасова не адхінуцца, можна моцна атрымаць па галаве. Але мы, паляўнічыя, усё-ткі не надта баімся і калі трапляем да такіх бяроз, дык пачынаем адзін перад адным рушыць іх.

Дык вось, прыйшлі мы на паляну з такімі бярозамі і скінулі даволі высокую бярозу. Падаючы, у паветры яна разламалася на некалькі кавалкаў. І ў адным з іх было дупло з гняздом гаічкі. Маленькія птушаняткі пры падзенні дрэва не пацярпелі. Толькі разам са сваім гняздзечкам вываліліся з дупла. Голыя птушаняты з ледзьве праклюнутымі пёркамі разяўлялі шырокія чырвоныя роцікі, прымаючы нас за бацькоў, пішчалі і прасілі ў нас чарвячка. Мы раскапалі зямлю. Знайшлі чарвячкоў. Далі ім падмацавацца. Яны елі, глыталі чарвячкоў і зноў пішчалі.

Неўзабаве прыляцелі бацькі. Гаічкі-сінічкі, з белымі пухлымі шчочкамі і з чарвячкамі ў дзюбках, селі на дрэве паблізу.

— Дзень добры, даражэнькія, — сказалі мы ім, — выйшла бяда; мы гэтага не хацелі.

Гаічкі нічога не маглі адказаць. Але, самае галоўнае, не маглі зразумець, што такое здарылася, куды прапала дрэва, дзе дзеліся іх дзеткі. Нас яны зусім не баяліся, пырхалі з галінкі на галінку ў вялікай трывозе.

— Дык вось жа яны! — паказвалі мы ім гняздо на зямлі. — Вось паслухайце, як яны пішчаць, як клічуць вас!

Гаічкі нічога не слухалі, мітусіліся, непакоіліся і не хацелі апусціцца ўніз за межы свайго паверха.

— А можа, — сказалі мы адзін аднаму, — яны нас усё-ткі баяцца. Давайце схаваемся! — І схаваліся.

Не! Птушаняты пішчалі, бацькі пішчалі, пырхалі, але ўніз не злятали.

Мы і здагадаліся, што птушкі не могуць памяняцца паверхамі, як гэта робяць часам людзі. Ім тады проста здаецца, што ўвесь іх ранейшы паверх разам з птушанятамі некуды знік.

— Вой-вой-вой, — сказаў мой спадарожнік, — ну якія ж вы дурненькія!..

Было шкада іх і смешна: такія слаўненькія і з крыльцамі, а зразумець нічога не хочуць.



Тады мы ўзялі той вялікі кавалак, у якім было дупло, зламалі верх суседняй бярозы і прымацавалі да ствала наш кавалак з гняздом якраз на такую вышыню, на якой быў разбураны паверх. Нам нядоўга давялося чакаць у засадзе. Праз некалькі хвілін шчаслівыя бацькі знайшлі сваіх птушанятак.



***Футара́л*** — скрынка або чахол, куды кладзецца рэч для захавання.



1. Пра якія паверхі расказвае Міхаіл Прышвін?
2. Што здарылася аднойчы на паляне? Прачытайце.
3. Якое выйсце знайшлі паляўнічыя?
4. Чаму птушкі не могуць мяняцца паверхамі? Прачытайце.
5. Разгледзьце ілюстрацыю. Якія словы з тэксту падыходзіць да яе апісання?
6. Падзяліце тэкст на часткі. Дайце кожнай частцы загаловак і складзіце план. Перакажыце апавяданне па плане.

## Алёша і Лявон

*(Байка)*

*Уладзімір Корбан*

Алёша і Лявон прыйшлі к рацэ аднойчы.
Алёша, як відаць, спрытнейшы быў,
Ускочыў ён у рэчку і паплыў.
А ў Лявона заблішчэлі вочы,
Здзівіўся ён, на беразе стаіць.
«А братка мой! — крычыць, —
Ці ж ты ўмееш плаваць?!»

«Няхітрая, — Алёша кажа, — справа».
«Дык і мяне вазьміся навучыць! —
І я паплысці, як і ты, хачу».
«Скачы ў рэчку, навучу».
«Я ж плаўкі свае змачу».

«Ну, змочыш. Дык галоўнае ж не ў тым.
Ніхто ж не плавае па беразе сухім».
«А нельга без вады як-небудзь навучыцца?»
«Не, дружа мой,
Не паплыве ніколі той,
Хто лезці ў ваду баіцца».



1. Якімі паказаны ў байцы Алёша і Лявон?
2. Як, на ваш погляд, трэба чытаць размову Алёшы і Лявона? Прачытайце.
3. У чым асноўны сэнс байкі? У якіх радках пра гэта сказана?
4. Размяркуйце байку па ролях і праінсцэніруйце яе.

## Жмені ягад

*Уладзімір Ягоўдзік*

### Суніцы

З дзяцінства помніцца маміна загадка: «Сядзіць паненка ў чырвонай сукенцы, хто яе ўбачыць — той і пакloніцца».

Ах, як пахнуць, як хутка растаюць у роце салодкія суніцы! Не ведаю смачнейшага ласунку я на свеце. Кожная ягадка — нібыта чароўная кропля, што

ўвабрала ў сябе і фарбы, і пахі, і нават птушыныя слёзы на пачатку лета.

З ягаднай сям'і суніцы паспяваюць першыя. Яны высыпаюць, як кажуць людзі, у канцы чэрвеня. Аднак не трэба па іх спяшацца, як па грыбы, — недаспаўшы, на раннім досвітку. Бяруць суніцы, калі сплыве туман і прападзе раса. Інакш яны памнуцца ў кошыку, разлезуцца на кашу. Ну а найлепшыя сунічкі — каля дарог лясных і сцежак, на колішніх прасеках і светлых палянах. Словам — там, дзе шаты верхалесся не замінаюць вясёлым сонечным промням мілаваць і грэць зямлю, кожную травінку і карэньчык.

Збіраць жа суніцы — свята, а не работа. Яны самі просяцца ў далонь, але ўмеюць спрытна хавацца і ў траве, і пад сваімі зубчастымі трылісьнікамі. Таму наперад раю: убачыўшы першую ягаду, адразу пакланіся, а тады шукай яе сяброўак. І не тупай, як мядзведзь, не тапчы лішне сунічнік. Нездарма нас вучыць мудраслоўе: «Ягаднік раз пашкадуеш — ён цябе дзесяць». Суніцы не толькі смаката, яны таксама лекі. Шмат якія хваробы дзякуючы ім адольвалі ў даўніну нашы дзяды і прадзеды. Лепшым сведчаннем таму — яшчэ адна народная прыказка: «Суніцы спажываеш — хваробы з сэрца выганяеш». Суніцы сушаць, з іх ціснуць сок і вараць варэнне. Адна яго лыжачка зімою адразу ж нагадвае лета, высокі чэрвеньскі поўдзень з пчаліным гудам і сухім гаркавым пахам кветак. І ўсе-такі самыя смачныя, самыя спажыўныя —

з кубкам малака або вяршкоў. Не лянуйцеся збіраць іх, ешце па ягадцы і цэлымі жменямі, тады ніякая хворасць не прычэпіцца да вас.

### Чарніцы

Мне здаецца, што чарніц заўсёды багата ў нашым лесе. Гэтыя цёмна-сінія з шызым налётам ягады, бадай, ведае кожны. Яны растуць на нізкіх кусціках з рэдкім дробным лісцем. І кожная галінка такая шчодрая — аж вочы разбягаюцца. Міжволі тут прысядзеш або ўкленчыш і давай хапаць — па ягадцы, па дзве. Як ужо налаўчыўся. Калі ж надумаўся прыйсці з поўным вядром, ніяк не абысціся без добрае парады: «Адной рукой дзіця не нянчаць і ягад не збіраюць». Дарэчы, зусім няцяжка прыкмеціць: з усіх ягаднікаў чарнічнік найбольш раскашуе ў лесе. На многія кіламетры раскінуліся яго ўладанні. І ў сасновым бары, і ў ельніку, і нават у гаі пад лісцянымі дрэвамі. Быццам хтосьці ці штосьці чарніцам спрыяе. Ні сухменю яны не баяцца, ні змрочнага ценю...

А ўся адгадка, мабыць, у старадаўняй легендзе. Калісьці вельмі даўно людзі даведаліся, што ў Лесавіка ёсць дзівосныя скарбы, і згаварыліся імі завалодаць. Усе лясы і пушчы перакапалі, шукаючы незлічоныя багацці, шмат векавых дрэў павалілі ды пусцілі з дымам. Не стала куды прытуліцца беднаму Лесавіку. Пашкадаваў небараку кусцік чарнічніку. Ён не збаяўся, што таксама можа пацярпець, схаваў ляснога ўладара і яго скарбы пад сваімі галінкамі. Людзі ледзь

не спраўдзілі задуманае, але не звярнулі ўвагі на маленькі кусцік побач з магутнымі ялінамі і соснамі.

З таго часу ў знак вялікай удзячнасці Лесавік аж па сённяшні дзень апякуе над чарніцамі, самаручна рассяляе чарнічнік на неабдымных лясных абшарах.

Што ж, чарніцы вартыя такой пашаны. Думаю, са мной усе пагодзяцца. Лесавіковы ягады цудоўныя на смак і карысныя для здароўя. Любыя — свежыя, сушаныя, звараныя. Але асабліва мне падабаюцца варэнікі з чарніцамі. Цэлую талерку з горкаю з'ясі і яшчэ папросіш.

***Апекава́ць*** — клапаціцца пра каго-небудзь.
***Укле́нчыць (кле́нчыць)*** — стаць на калені.



1. Якія парады неабходна ведаць, ідучы па ягады? Як пра гэта сказана ў творы?
2. Знайдзіце ў тэксце і прачытайце апісанне суніц.
3. Чаму Лесавік па сённяшні дзень апякуе над чарніцамі? Раскажыце легенду.
4. Чым карысныя суніцы і чарніцы?
5. Растлумачце, як вы разумееце наступныя сказы: «*Сядзіць паненка ў чырвонай сукенцы, хто яе ўбачыць — той і пакланіцца*», «*Ягаднік раз пашкадуеш — ён цябе дзесяць*», «*Суніцы спажываеш — хваробы з сэрца выганяеш*», «*Адной рукой дзіця не нянчаць і ягад не збіраюць*». Ці можна іх аднесці да вобразных выслоўяў павучальнага зместу. Чаму?
6. Прачытайце тэкст самастойна. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора па частках (*1 варыянт* — «Суніцы»; *2 варыянт* — «Чарніцы»).

## Скорагаворка

Чэрвень. Чарнеюць чарніцы і чырванеюць суніцы.

## Загадка

У траве, як агеньчыкі, ружавеюць вугольчыкі. Дзень і ноч гараць, палаюць, смак яны мядовы маюць.

# Музыка ў бары

*Васіль Хомчанка*

Якое раздолле ў зялёным бары летам! Колькі прастору тут для забавы, колькі дзіваў усякіх пабачыш!

Вунь на высокіх кучаравых хвоях і елках смела разгульваюць шустрыя жартаўлівыя вавёрачкі. Яны спрытна зрываюць сухія шышкі ды, спяшаючыся, нясуць у свае гнёзды. І якія працавітыя, руплівыя зяркі — гэтыя маленькія рыжыя вавёрачкі з доўгімі пушыстымі хвосцікамі! Праз усё лета заняты яны работай.

Даўгахвостыя дзятлы ў чорных вопратках з чырвонымі палоскамі заўзята барабаняць па дрэвах сваімі вострымі дзюбамі. Адны з іх заняты звычайнай работай: шукаюць у бары на абед казюлек, другія будуюць жыллё не толькі сабе, а і ўсім, каму яно з лясных жыхароў патрэбна.

Розныя дробныя птушкі пырхаюць між галля. Дружным хорам шчабечуць шпакі, весела пасвістваюць івалгі і дразды. А часта прылятаюць сюды з лісцёвых лясоў і шэрыя зязюлі-непаседы. І такая дзіўная музыка гучыць у бары!



1. Які настрой выклікаў у вас твор?
2. Прачытайце апісанне лясных жыхароў. Чым яны заняты ўлетку?
3. Як вы разумееце апошні сказ тэксту?
4. Падрыхтуйце слоўныя малюнкі да тэксту.

## Загадка

Дрывасек ён — проста зух.
Над вадою хата.
Аж да пят яго кажух,
Хвост — нібы лапата.

 ***Зух*** — бойкі, удалы, малайцаваты чалавек.

## Бабровы слёзы

*Уладзімір Ляўданскі*

Сядзелі мы з дзедам Мацеем на беразе і вудзілі плотак, якія з вясны добра бяруцца на хлеб. Стаміўшыся, дзед даручыў мне свае вуды, а сам прылёг. Толькі ён заснуў, як у кустах пачуліся нейкія прыглушаныя гукі, нібы скавытаў сабака. Дрыжыкі прабеглі па маім целе, і я асцярожна тузануў старога за рукаў. Дзед прахапіўся і запытаў:

— Клюе?

— Ды не, — адказаў я. — Паслухайце.

Дзед Мацей сеў, з хвіліну прыслухоўваўся, потым, усміхнуўшыся, сказаў:

— Няўдала мы з табою, браце, селі. Загарадзілі дарогу...

— Каму?!

— Тутэйшаму жыхару... — хітравата паглядзеў на мяне стары. — Можа, хочаш пабачыць яго?

Я замаўчаў, бо быў зусім упэўнены, што дзед жартуе. А ён устаў і, крадучыся, пайшоў у кусты. Праз некалькі хвілін ён гукнуў:

— Ідзі паглядзі, хто плача!

Я з недаверам падышоў да дзеда.

— Бачыш? — паказаў ён рукою.

На вузенькай сцяжынцы, што вілася між куп'я па хмызняку, сядзеў велічынёй з добрага сабаку светлабуры звер. Галава яго была круглая, а хвост амаль голы і пляскаты. Звер глядзеў на нас маленькімі чорнымі вочкамі, раз-пораз выціраў іх кароткімі пярэднімі лапамі і нахіляўся то ў адзін, то ў другі бок. У яго густа сыпаліся з вачэй буйныя, як гарох, слёзы, і выгляд у яго быў вельмі няшчасны і жаласны.

— Што гэта? — толькі і мог вымавіць я ад здзіўлення.

— А тое, што мы з табой занялі яго дарогу, — адказаў дзед Мацей. — Ён, бачыш, такі ўжо дзівак. Калі выйдзе з ракі і адыдзецца, то абавязкова павінен вярнуцца назад па той самай сцежцы. А вось калі яна занята, то сядзіць і плача, а звярнуць убок і абысці не здагадаецца.

І сапраўды, бабёр не ўцякаў, хоць мы былі ўжо блізка каля яго. Ён старанна выціраў слёзы, то прысядаў, то зноў станавіўся на заднія лапы, умольна пазіраючы на нас.



— Ну, хопіць ужо, хопіць, — спагадліва сказаў нарэшце дзед бабру. — Наплакаўся, а цяпер бяжы ў раку ды памыйся.

І як толькі мы адышліся крыху ўбок, бабёр нязграбна падскочыў і заспяшаўся па сцяжынцы да ракі.

«Дык вось адкуль гэта прымаўка — плача, як бабёр», — падумаў я, калі мы вярталіся да сваіх вудаў.

***Умольны*** — які выражае моцную просьбу.

?

1. Каго ўбачыў хлопчык на вузкай сцежцы? Прачытайце апісанне бабра.
2. Чаму бабёр не ўцякаў? Чаму ён плакаў? Раскажыце.
3. Якімі словамі з тэксту можна падпісаць малюнак?
4. Адкуль пайшла прымаўка *«Плача, як бабёр»*?
5. Падзяліце тэкст на часткі, дайце ім загалоўкі. Перакажыце апавяданне блізка да тэксту.

## Скорагаворка

Добры бабёр, бабраняты — на падбор.

## У грыбах

*(З дзяцінства Якуба Коласа)*

*Сцяпан Александровіч*

Раніцай, чуць толькі паказалася сонца, хлопцы пашыбавалі ў лес. Ішлі яны ўтрох — Алесь, Уладзік і Кастусь — паперадзе, пакінуўшы далёка ззаду бацьку з дзядзькам Антосем. Тыя былі яшчэ далёка і на хаду абмяркоўвалі нейкія справы. Звярнуўшы з дарогі на лясную сцяжынку, хлопцы рассыпаліся па лесе, пачалі крычаць. Уладзік свіснуў у два пальцы, аж рэха адазвалася недзе далёка-далёка ў гушчары.

— Вы што галёкаеце? — крыкнуў на іх бацька.

Бацька працаваў лесніком. Ён не проста ішоў па грыбы, а адчуваў сябе на службе — рабіў абход лесу.

У яго была такая прывычка: як увойдзе ў лес — пастаіць, пільна паслухае, можа, дзе глуха стукае сякера, звініць піла або грукаціць воз? Нічога падазронага не чуваць. Толькі недзе раз-поразу дзяўбе дзяцел.

Прайшоўшы крыху глухой сцяжынкай, звярнулі направа, на пакрыты мохам і мяккім верасам грудок. Хлопцы першыя шуснулі ў гушчар, дзе пад старымі елкамі быў паўзмрок і чуўся духмяны лясны водар, настоены на разагрэтай смале і прэлайігліцы.

— Баравік! — весела крыкнуў Косцік, убачыўшы карычневую шапку, што прыталілася пад галінай елкі.

У Кастуся ў лесе былі свае ўлюбёныя мясціны, куды ён часта бегаў адзін. Бывае, усхопіцца на досвітку, адрэжа скібку хлеба, кошык у рукі і — толькі яго бачылі! Садзяцца дзеці за стол снедаць, а Косціка няма.

— Дзе ж Кастусь? Ідзі, Міхалінка, пакліч, — кажа маці старэйшай дачцэ.

Дзядзька Антось толькі ўсміхаецца ў вус:

— Ды ён ужо колькі гадзін як па лесе гойсае... Зараз зноў поўны кошык баравікоў прынясе...

А Косцік лёгкі на ўспамін. Калі не поўны кошык, дык амаль даверху напоўнены. Усё адны баравікі і падасінавікі.

Неяк раз пайшоў ён раненька і прапаў. Сям'я ўся паснедала ўжо. Маці ўправілася каля печы. Сонца высока ўзнялося. Уладзік каровы прыгнаў з поля, а Косціка няма і няма.

— Можа, заблудзіўся дзе хлопец у лесе? — пачала непакоіцца маці.

А Косцік у той дзень натрапіў на вельмі грыбное месца. Куды ні ступі — баравікі! Ды якія! Адзін у адзін! Нагнешся адзін падымаць, а пад кустом цэлая сямейка. Чык, чык!.. Толькі шастае ножыкам. Вось яшчэ два, а вунь трэці! За якую гадзіну назбіраў поўны кошык, а грыбоў на гэтай мясцінцы было яшчэ многа. Прыйшлося вывернуць кошык, выкінуць старыя баравікі, паабразаць ножкі і пакінуць толькі шапкі. Праз хвілін дваццаць — зноў поўна ў кошыку! Патупаў Косцік дамоў. Ідзе нацянькі, хоча заглянуць

яшчэ ў адну мясціну: на тым тыдні ён пакінуў там падрастаць некалькі маленькіх баравічкоў...

Хлопец разгарнуў кошыкам калючыя лапкі, зірнуў і за галаву схапіўся. Бацюхны! Уся зямля грыбамі ўкрыта, хоць касою касі! Што рабіць? Другі раз прыйсці? Не!

Косцік скінуў сарочку, завязаў каля каўняра — атрымалася торба. Давай укладваць... Вось было дома гаворкі і здзіўлення, калі ён прынёс столькі грыбоў!

?

1. Пра чыю сям'ю расказваецца ў творы?
2. Чым любіў займацца Косцік? Куды ён знік аднойчы?
3. Ці ведаеце вы, як правільна збіраць грыбы? Прачытайце, як Косцік збіраў грыбы.
4. Чым уразіў сям'ю Косцік, калі прыйшоў дадому?
5. Перакажыце эпізод, які вам найбольш спадабаўся.
6*. Успомніце вершы Якуба Коласа, якія вучылі раней. Аднавіце іх у памяці і прачытайце перад класам.
7. Прыдумайце працяг апавядання па прапанаваным пачатку: *«Аднойчы мы з татам збіралі грыбы. Я стаміўся і прысеў на пень адпачыць...»*.

## Прыказка

Па дарозе ідучы, грыбоў не назбіраеш.

## Загадка

Стаіць у лазе на адной назе.

# Рагаты грыбнік

*Віктар Гардзей*

Паміж ялін кашлатых,
Па верасе ў расе
Ідзе грыбнік рагаты
І барадой трасе.

Лясныя помніць сцежкі
І ляды, дзе заўжды
Збірае сыраежкі,
Апенькі і грузды.

У шапачцы прывабнай
Мільгнецца баравік,
Дык перад ім нязграбна
Аж кленчыць той грыбнік.

Гаямі і барамі
Не ходзіць ён з кашом,
Грыбы бярэ губамі
Ці ліжа языком.

Яго між дрэў кашлатых
Вітае пушча ўся.
У грыбніку рагатым
Як не пазнаць лася!



***Ля́да*** — дзялянка высечанага лесу, хмызняку; высечка.

1. Пра якога грыбніка расказваецца ў вершы?
2. Якім уяўляецца вам рагаты грыбнік? Апішыце яго, карыстаючыся словамі з тэксту і ілюстрацыяй.
3. Якія яшчэ жывёлы харчуюцца грыбамі?

## Зязюліны ручнікі

*Пятрусь Граніт*

Лён пасеяла зязюля
Пад кустамі паміж пнёў.
Пакуль лётала кукуля,
Дождж прайшоў — лён узышоў.



Прапалола, потым рвала,
Слала, мяла з-пад рукі,
А затым кудзелю прала,
Тыдзень ткала ручнікі.

У рачулцы чыстай мыла,
Высцілала на расу
Ды на сонейку сушыла
Іх дзівосную красу.

А пасля ўжо вышывала
Рознымі ўзорамі,
Потым прасам прасавала —
Не набрацца б сораму!..

Ну, а дзе іх разаслала,
Самі здагадайцеся,
Мне зязюля не сказала,
У яе спытайцеся!..

 ***Кудзе́ля*** — валакно лёну, апрацаванае для вырабу пражы.



1. Пра якую расліну расказваецца ў вершы?
2. Які шлях праходзіць лён ад расліны да ручніка? Пацвердзіце свае адказы словамі з тэксту.
3. Якія словы і выразы выкарыстоўвае аўтар, каб выказаць свае адносіны да лёну?
4. Падумайце, чаму аўтара радуюць льняныя вырабы.
5. Падрыхтуйце выразнае чытанне верша.

## Загадка

Білі мяне, білі, білі, калацілі,
на полі цягалі, рукамі ірвалі,
на ключ запіралі і на стол саджалі.

## Паляўнічы і Рыбак

*(Сцэнка)*

*Васіль Жуковіч*

Дзейныя асобы

Рыбак
Паляўнічы

На сцэне — маленькая ялінка і вялікі пень. З двух бакоў сыходзяцца знаёмыя — Паляўнічы са стрэльбаю ды Рыбак з вудаю.

Рыбак. Здароў, дружа Дзям'ян!

Паляўнічы. Здароў, Мар'ян, здароў!

Рыбак. Ну, што ты ўпаляваў?

Паляўнічы. Ды сотню камароў.

Рыбак. Не можаш больш нічым ты пахваліцца, бачу.

Паляўнічы *(разводзіць рукамі)*. Няма такіх прычын.

Рыбак. Няўдачнік ты, няўдачнік!

Паляўнічы. Ну, а рыбалка як, Мар'ян?

Рыбак. Пудовы сом папаўся!

Рыбак паказвае рукамі неверагодна вялікі памер рыбіны. Паляўнічы дужа здзіўлены.

Паляўнічы. А дзе ж ён, сом той — велікан?

Рыбак *(махае рукою)*. Ды ён з кручка сарваўся.

Паляўнічы смяецца. Усміхаецца і Рыбак.

Паляўнічы *(да залы)*. Усялякае ў жыцці здараецца...

Рыбак. То рыбка з кручка зрываецца.

Паляўнічы. То звер не ў той бок скача...

Паляўнічы і Рыбак. Але ж мы не губляемся, смяёмся мы — не плачам.

Паляўнічы і Рыбак кланяюцца гледачам, потым кожны з іх развітальна махае рукою, яны сыходзяць са сцэны.



1. Якую смешную сітуацыю адлюстраваў аўтар?
2. Якая галоўная думка твора?

3. Уявіце сабе, што вы мастакі, якім неабходна афарміць гэту сцэнку. Вусна намалюйце дэкарацыі.
4. Размяркуйце тэкст па ролях. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання сцэнкі.

## На жарты крыўдавацъ не варта

Віця з татам ездзілі на экскурсію ў горад і зрабілі там шмат здымкаў. Назаўтра тата праявіў плёнку і вельмі здзівіўся:

— Нешта нічога на ёй не відаць.

— Я таксама глядзеў сёння і нічога не бачыў, — сказаў Віця.



Каця спрабуе зацягнуць нітку ў іголку, але нічога не атрымліваецца.

— Запалі святло, калі ласка, — просіць яна бабулю.

— Навошта днём святло? Хіба ты не бачыш вушка ў іголцы?

— Я-то бачу, але нітка не бачыць.

## Кліча вецер свежы

*Эдзі Агняцвет*

Праз лугі-разлогі,
Паміж рэчак звонкіх
Пралягглі дарогі
Роднае старонкі.

Па адной дарозе
Пад Барысаў пойдзеш —

На рацэ Бярозе
Запаведнік знойдзеш.

Там у сінім змроку
Ёсць ласі, куніцы,
Там на кожным кроку —
Смачныя суніцы.

Над ракою ціхай
Ніцых лозаў шаты.
Там бабёр з бабрыхай
Збудавалі хату...

Кліча вецер свежы
Да другой дарогі.
Вабяць з даляў вежы,
Вабіць замак строгі.

Па шляху заходнім,
Там, дзе пушчаў гоман,
Мы ідзём да Гродні,
Дзе лагодны Нёман.

...Кожны кут радзімы —
Гэта быль і казка.
Кліча край любімы:
— Дзеці, калі ласка!



?

1. У якое падарожжа запрашае нас аўтар?
2. Што цікавага можна ўбачыць у час падарожжа па Беларусі?
3. Якімі словамі з верша можна падпісаць малюнак?
4. У які куток любай Беларусі хацелі б адправіцца вы?

## Канікулы

*Віктар Швед*

Канікулы, канікулы,
Вясёлая пара.
Прырода нас паклікала
Са школьнага двара.

Паклікала, цудоўная,
На палявы прастор,
У лес, у глыб чароўную,
Да рэчак і азёр.

Каб мы тут ласаваліся
Прыроды ўсім дабром,
Каб стомы пазбываліся
Мы з кожным летнім днём.

Каб зноўку вераснёваю
Асенняю парой
Прыйшлі мы з сілай новаю
У клас любімы свой.



?

1. Якім пачуццём прасякнуты верш? Што родніць яго з вершам Эдзі Агняцвет «Кліча вецер свежы»?
2. Якія вобразы роднай старонкі адлюстраваны ў абодвух вершах? Прачытайце.
3. Як вы збіраецеся правесці свой летні адпачынак?

## Птушынае гняздо

Разгледзьце малюнкі і складзіце па іх апавяданне.






Словы і выразы для выкарыстання: пайшлі ў лес; знайшлі гняздо; птушка ахоўвала; не кранулі гняздо.

## ЧЫТАЕМ, АБАГУЛЬНЯЕМ, ПРАВЯРАЕМ СЯБЕ

**1.** З якіх твораў узяты ўрыўкі?

а) «Луг заліўся галасамі:
Да яго ва ўсе канцы
Выйшлі стройнымі радамі
Загарэлыя касцы»;

б) «Алёша і Лявон прыйшлі к рацэ аднойчы.
Алёша, як відаць, спрытнейшы быў,
Ускочыў ён у рэчку і паплыў.
А ў Лявона заблішчэлі вочы...»

в) «Лён пасеяла зязюля
Пад кустамі паміж пнёў.
Пакуль лётала кукуля,
Дождж прайшоў — лён узышоў».

**2.** Пазнайце герояў па іх выказваннях.

а) «— Усялякае ў жыцці здараецца...
— То рыбка з кручка зрываецца.
— То звер не ў той бок скача...»;

б) «Не, дружа мой,
Не паплыве ніколі той,
Хто лезці ў ваду баіцца»;

в) «— Няўдала мы з табою, браце, селі. Загарадзілі дарогу...

— Каму?!

— Тутэйшаму жыхару. Можа, хочаш пабачыць яго?».

**3.** Адгадайце па малюнках творы, з якімі пазнаёміліся ў гэтым раздзеле. Назавіце аўтараў гэтых твораў.






**4.** Якое апавяданне з гэтага раздзела вам найбольш спадабалася? Сцісла перакажыце яго змест.

**5.** Падрыхтуйце інсцэніроўку твора «Паляўнічы і Рыбак».

**6.** Успомніце прачытаныя ў раздзеле апавяданні, вершы, у якіх апісваецца лес. Якія з гэтых апісанняў вам найбольш падабаюцца і чаму?

**7.** Якія малюнкі да твораў аб прыродзе вас зацікавілі? Раскажыце пра адзін з іх.

**8.** У якіх творах паказана любоў да прыроды? Як вы клапоціцеся аб прыродзе?

## Адгадкі

с. 5. Снег.
Мароз.
с. 12. Мароз.
с. 19. Мароз.
с. 37. Дзед Мароз
с. 62. Бусел.
с. 66. Сонца.
с. 72. Сонца.
Дождж, зямля, трава.
Вясна.
.

с. 88. Дзяцел.
с. 92. Дзяцел
с. 100. Жаўрук.
Дзяцел.
с. 102. Дождж.
с. 115. Суніцы.
с. 116. Бабёр.
с. 121. Грыб.
с. 124. Лён.

# ЗМЕСТ

## Мяккі снег лятае пухам, і канца яму няма...

## Вясна прыйшла, каб святам стаць

## Слава травам, слава кветкам, слава летнім яркім дням…

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |


Вучэбнае выданне

**Вольскі** Артур Вітальевіч
**Гімпель** Ірына Андрэеўна

**Літаратурнае чытанне**

Падручнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

2-е выданне, выпраўленае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*. Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*.
Мастак *Н. А. Хромава*. Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*.
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *М. І. Чаплаводскай*.
Карэктары *К. В. Шобік, Н. М. Мамчыц*.

Падпісана ў друк 07.06.2013. Фармат $70\times90^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 9,95. Ул.-выд. арк. 4,3+0,4 форз. Тыраж 20 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск